



# Рэгіянальная газета. Rh.by

ТэлетыДзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

7 лістапада 2014 года №45 (1019)



**Жанчына можа забіць, каб выратаваць ад пакут**
Як навучыцца вырашаць праблемы і ствараць здаровыя адносіны
старонка 21

**Выпішыце таблеткі, што памагаюць суседцы**
Каб выключыць самалячэнне сярод пацыентаў, увялі новыя правілы продажу лекаў
старонка 20

**Дзе найлепш рыхтуюць да ЦТ** с. 5

**Пасажыры хочуць змяніць расклад цягніка на Вілейку** с. 2

**Не хочаце плаціць за пакет – прасіце ўпакаваць у плёнку** с. 3


## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Ля Вілейкі на Нарач едзь па крузе

**ВІЛЕЙКА.** Завяршаюць працы па пераўладкаванні скрыжавання дарог Р63 (Барысаў-Вілейка-Ашмяны) і Р28 (Мінск-Маладзечна-Нарач) ля Вілейкі. Тут арганізавалі развязку с кругавым рухам. Цяпер аўтамабілі па гэтай дарозе едуць па крузе. Кругавы рух транспарту пачаўся ад 27 кастрычніка, расказаў галоўны інжынер філіяла ДЭУ №63 "Мінскаўтадар-Цэнтра" **Андрэй Пісарук.** Поўны комплекс мерапрыемстваў па добраўпарадкаванні завершаць у лістападзе.

### Бегаеце? У суботу – марафон

**МАЛАДЗЕЧНА.** На гарадскім стадыёне ў суботу, 8 лістапада, у Маладзечне пройдзе забег. Пачатак а 11-й гадзіне. Далучацца можна ўсім ахвотным. Сярод бегуноў будзе і маладзечанец **Васіль Лябецкі.** Напрыканцы кастрычніка ён стаў пераможцам міжнароднага лёгкаатлетычнага конкурсу "Мой родны кут" ва ўзроставай катэгорыі ад 60 гадоў.

### Скрыпачы сталі лаўрэатамі ў Аўстрыі

**ВІЛЕЙКА.** Ад 29 кастрычніка да 3 лістапада ў Вене праходзіў міжнародны фестываль дзіцячай творчасці "Венскія музычныя асамблеі". Удзельнічаў у ім узорны ансамбль скрыпачоў "Камплімент" Вілейскай дзіцячай школы мастацтваў. Ансамбль і яго салістка **Яна Мучынская** сталі лаўрэатамі фестывалю і атрымалі дыплом трэцяй ступені. Кіраўнік ансамбля – **Таццяна Жук**, канцэртмайстар – **Святлана Ражко**.

**Аддзел інфармацыі.**



# Хто што думае пра магчымыя свінакомплексы

**МАЛАДЗЕЧНА. Як зменяцца цэны на мяса пасля таго, як пабудуюць свінафермы ў Маладзечанскім раёне. Што думаюць маладзечанцы наконт будаўніцтва. Якая аптымальная адлегласць свінакомплексу ад горада.**




Паводле інфармацыі Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі, вытворчасцю свініны займаецца 105 комплексаў. На іх вырабляюць 85% свініны.

### Будаўніцтва плануюць пачаць у 2015 годзе

У 2015 годзе ў Маладзечанскім раёне ля вёсак Соўлава і Мойсічы плануюць пачаць будаўніцтва двух свінакомплексаў. Ажыццявіць планы збіраюцца за 18 месяцаў. Распрацоўка дакументацыі запланаваная на 2014-2015 гады.

На сайце Маладзечанскага райвыканкама можна пабачыць тлумачальны артыкул наконт будаўніцтва свінакомлексаў.

**Генадзь Актанаровіч,** намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкама:

– На працягу месяца, да 30 лістапада, людзі могуць удзельнічаць у абмеркаванні пытання ўздзеяння свінакомплексаў на навакольнае асяроддзе. Пакуль у райвыканкам не прыходзіла заўваг і прапаноў.

Да 17 лістапада можна падаваць заявы аб правядзенні грамадскай экалагічнай экспертызы. Іх можна накіроўваць ў райвыканкам або на электронны адрас: mldkray@mail.belpak.by, або па тэлефонах: 8 (0176) 772672, 8 (0176) 770704. Таксама дырэктару прадпрыемства "Велес-Міт" па нумары 8 (0222) 299994 або на электронную пошту: gurikov@ekolog.by.

### Свіней плануюць адкормліваць да 115 кілаграмаў

Свінагадоўчыя комплексы разлічаныя на вытворчасць свініны ў 100 тысяч галоў. Прадукцыя прызначаная для продажу ў Беларусі і за мяжой.

На фермах плануюць размнажаць і адкормліваць свіней да 115 кілаграмаў. Адкормленых свіней будуць прадаваць і вывозіць на забой.

### "Цэны на мяса наўрад ці зменяцца"

Як патлумачыла нам **Наталля Марчукова,** загадчыца сектара жывёлагадоўлі райвыканкама:

– Цэны на мяса наўрад ці зменяцца, як з'явяцца свінакомплексы. Яны фарміруюцца зыходзячы з сабекошту прадукту. Гэта грашовыя затраты на вытворчасць, на рэалізацыю прадукту. Спатрэбіцца час, каб акупіць свінакомплексы.

Дырэктар Цэнтра экалагічных рашэнняў **Яўген Лабанаў** адзначыў:

– Асноўная небяспека ад свінакомплексаў для навакольнага асяроддзя – гной у вялікай колькасці. Трэба дакладна ведаць, якая плошча будзе аддадзеная для яго размеркавання. Шмат гною на палях прыводзіць да павышэння ўзроўню нітратаў у вадзе, накаплення шкодных элементаў у прадуктах харчавання. Чым менш свінакомплекс, тым менш ад яго адходаў, і лягчэй іх абеззаражваць і размяркоўваць па палях.

### Маладзечанцы: прыйдзецца дыхаць смуродам

**Андрэй Рацъ,** маладзечанец:

– Для заказчыкаў найбольш выгадна размясціць яго як мага бліжэй да горада. Падчас будаўніцтва будуць вазіць туды будаўнічыя матэрыялы, ды і будаўнікам лягчэй дабірацца. Чым бліжэй да горада, тым меншыя затраты. Ну, а маладзечанцам прыйдзецца дыхаць смуродам ад свінакомплексу, асабліва летам.

**Дзмітрый Каласоўскі** часта па працы бывае каля пасёлка Акцябрскі Смалявіцкага раёна. У двух кіламетрах ад Смалявічаў знаходзіцца птушкаферма:

– Пры пад'ездзе да пасёлка смурод ад аміяку адчуваю нават з закрытымі вокнамі ў машыне. Пры будаўніцтве свінакомплексу ў Маладзечне спатрэбяцца ачышчальныя збудаванні для перапрацоўкі адходаў жыццядзейнасці свіней. Арымаецца, што гэтыя рэзервуары будуць у непасрэднай блізкасці ад горада.

### З'явяцца новыя працоўныя месцы

**Улад Войтка** адзначае, што цяпер многія маладзечанцы пачалі казаць, што ў горадзе будзе смярдзець ад свінафермы:

– Глупства гэта! Галоўнае, каб мяса было нармальнае ў магазінах!

**Канстанцін Манкус** адным з плюсаў называе з'яўленне новых працоўных месцаў.

Падсумуем, маладзечанцы не супраць будаўніцтва свінакомплексаў. Адзінае толькі, што яны хочуць, каб яны размяшчаліся далей ад горада, каб не было смуроду. З выгадаў, якія яны бачаць ад будаўніцтва, – надзея на тое, што мяса стане таннейшым і з'явяцца новыя працоўныя месцы.

**Галіна СІНІЦА.**



Малюнак Наталлі ТУР.

ЛІЧБА НУМАРА

**47**

Столькі непаўналетніх дзяўчат у рэгіёне нарадзілі дзяцей у 2013 годзе

По дадзеных ЗАГСаў сямі раёнаў

Інфаграфіка Настасі РОЎДЫ.

| Раён | Ва ўзросце ад 16 да 18 гадоў |
|---|---|
| Астравецкі раён | 5 |
| Ашмянскі раён | 5 |
| Валожынскі раён | 9 |
| Вілейскі раён | 4 |
| Маладзечанскі раён | 14 |
| Мядзельскі раён | 3 |
| Смаргонскі раён | 7 (сярод іх адна дзяўчына, якой няма 16 гадоў) |

● ТРАНСПАРТ

# Пасажыры хочуць змяніць расклад цягніка на Вілейку

**МАЛАДЗЕЧНА. Многім з іх няручна ездзіць на цягніку на 16:14. Аднак пакуль не знайшлося чалавека, які б сабраў подпісы, каб цягнік перанеслі на пазнейшы час.**

У рэдакцыю “Рэгіянальнай газеты” звярнулася чытачка **Галіна**. Яна скардзіцца на тое, што цягнік з Маладзечна ў Вілейку ідзе на 16:14. Працоўны дзень жа заканчваецца ў сямнаццаць гадзін.

– Прыходзіцца адпрошвацца з работы. Аднак штодзень не будзеш жа сыходзіць раней! – заўважае жанчына.

### “Чыгунка займаецца шкодніцтвам”

Раней яна ездзіла на машыне. Аднак толькі на запраўку за 22 працоўныя дні трэба аддаць 800 тысяч рублёў.

– Цяпер рана цямнее, – гаворыць Галіна. – Хутка пачнецца галалёдзіца, таму страшна будзе ездзіць. А раптам нешта зламаецца па дарозе. Буду баяцца нават выйсці з машыны, паўсюль лес. Ды і парамантаваць не змагу.

Цяпер жанчына дабіраецца дадому ў Вілейку са знаёмымі на машыне. Але яны хутка перастануць ездзіць на Маладзечна. Жанчына ў разгубленасці, на чым тады дабірацца.

– Для каго пускаюць такія цягнікі? – пытаецца жанчына. – Чыгунка займаецца шкодніцтвам у адносінах да пасажыраў.

### 49 чалавек ездзіць на цягніку

Карэспандэнтка “Рэгіянальнай газеты” прайшлася па вагонах цягніка і пералічыла, колькі людзей ездзіць на гэты час. У першым і пятым вагоне па пяць чалавек, у другім – сем. Найбольш было ў трэцім і чацвертым вагонах – 14 і 18 чалавек. Агулам – 49 чалавек за чатыры мінуты да адпраўлення цягніка.

Мы спыталі ў пасажыраў, ці зручна ім ездзіць на цягніку на гэты час. Большасць выказалася за тое, што лепш было б, каб цягнік ішоў пазней. Так **Уладзімір Давідовіч** адзначыў:

– На цягніку ездзіць значна танней, чым на аўтобусе, і прыязджае бліжэй да дома. Аднак было б лепш, каб ён ішоў на сямнаццаць гадзін. А так прыходзіцца адпрошвацца з работы, каб паспець. Ды і людзей на гэты час мала ездзіць.

### Некаторым зручна, але большасці – не

**Анатоль Вашынко** працуе ў вагонным дэпо. Мужчына гаворыць, што на гэтым цягніку зручна ездзіць не толькі яму, але і навучэнцам маладзечанскіх каледжаў.

– Але ж большасць людзей заканчвае рабочы дзень ў 17.00, таму яны дабіраюцца на аўтобусе або на сваім транспарце. Было б значна лепш, каб цягнік ехаў пазней.

На чыгуначным вакзале ў Маладзечне нам патлумачылі, што пасажыры, якім нязручны расклад цягнікоў, павінны пісьмова звярнуцца ў аддзел арганізацыі пасажырскіх перавозак Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі. Пажадана, каб гэта быў калектыўны зварот. Тады расклад могуць змяніць.

**Галіна СІНІЦА.**

● ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ

## Смаргонцы абураюцца “ляжачым паліцэйскім”

**СМАРГОНЬ. Насупраць 2-й школы ў Смаргоні ўсталявалі “ляжачы паліцэйскі”. Аднак на форуме горада ўжо з’явіліся каментары абураных мясцовых жыхароў.**

– Пры дазволенай хуткасці 40 км/г прытармажваць даводзіцца да 20 км/г, – піша адзін з карыстальнікаў. – Пра дзяржстандарты тут, зразумела, ніхто ніколі не чуў: нашы людзі вытрываюць усё. Тое, што яго ніяк не пазначылі і ўцемры прыходзіцца доўга шукаць, – таксама справа звыклая. Цікава іншае: выбар месца. Чаму менавіта за сотню метраў ад пераходу, які рэгулюецца? Езджу там сто гадоў і ні разу не заўважаў, каб тут наогул хтосьці перабягаў дарогу. Тым больш, што з боку школы ёсць агароджа. Які сэнс ў тым, каб менавіта тут крыва пакласці валік з асфальту?

### ДАІ: усё па дзяржстандартах

Як патлумачыў старшы дзяржаўтаінспектар Смаргонскага аддзела ДАІ **Аляксандр Сілевіч**, сам “паліцэйскі” клала ЖКГ, згодна з дзяржстандартамі.

Яго паклалі менавіта ў гэтым месцы, таму што штучныя няроўнасці павінны быць каля кожнай школы. Арыентаваліся на гэтае патрабаванне, а не на пераход. Яшчэ тры гады таму, калі тут рамантавалі дарогу, былыя штучныя няроўнасці знялі, а новыя не паклалі. І калі раней іх было дзве, то цяпер – толькі адна.

31 кастрычніка “ляжачы паліцэйскі” пафарбавалі, і ён бачны. Раней не атрымлівалася праз дрэнныя ўмовы надвор’я, тлумачыць старшы дзяржаўтаінспектар.

Знакі абмежавання хуткасці там стаяць.

– Але калі аднаго мала, то няхай людзі звяртаюцца – пакладзём яшчэ адзін, – дадае Аляксандр Сілевіч.

**Настасся РОЎДА.**

● КАМЕНТАР СПЕЦЫЯЛІСТА

## Цяжарным трэба своечасова стаць на ўлік

**Каментуе загадчыца акушэрскага аддзялення Вілейскай ЦРБ Алена Мілонайць:**

– У такім узросце дзяўчаты маральна яшчэ не гатовыя да родаў. Яны самі дзеці. Часцей за ўсё гэта незапланаваная цяжарнасць, і праходзіць яна па-рознаму. Часам лёгка, часам з цяжкасцямі. Але гэта залежыць не ад узросту, а ад стану здароўя.

Вядома, усё асабіста. Некаторыя без ускладненняў нараджаюць у 40 гадоў. А самая цяжкая цяжарнасць за маю практыку была ў 16-гадовай дзяўчыны.

Нараджаць ці не – справа самой цяжарнай. Гэта яе жыццё, яе лёс. Галоўнае, каб пры цяжарнасці дзяўчына стала на ўлік да 12 тыдняў. Тады мы можам за ёй назіраць і ў выпадку чаго дапамагчы вырашыць праблемы.

Аднак найлепш, каб дзяўчаты думалі перад тым, як зацяжарыць.

**Настасся РОЎДА.**

● ПАМЯЦЬ

## У пяты раз пройдзе аўтапрабег па мясцінах Першай сусветнай

**ВІЛЕЙКА. У суботу, 8 лістапада, адбудзецца аўтапрабег, прысвечаны 100-годдзю пачатку Першай сусветнай вайны.**

Падчас яго наведаюць месцы баёў і пахаванні воінаў на Вілейшчыне.

Аўтапрабег адбудзецца пяты год запар. Праходзіць ён напярэдадні Дня прымірэння па ініцыятыве намесніка старшыні праўлення Фонду памяці Першай сусветнай вайны “Крокі” **Барыса Цітовіча.**

Маршрут пачнецца з Вілейкі, ад могілак па вуліцы 1 Мая, дзе вядзецца будаўніцтва брамы-капліцы ў гонар палеглых воінаў. Далей удзельнікі аўтапрабегу наведаюць брацкія пахаванні, капліцы, памятныя месцы, звязаныя з гісторыяй Першай сусветнай – у Порсе, Жарсцвянцы, Забfroddзі ды іншых вёсках. На месцы кожнага пахавання адслужаць ліцію – кароткую памінальную малітву.

Па добрай традыцыі завяршыцца мерапрыемства гарачай гарбатай у палісадзе Памяці на беразе Нарачанкі.

Запрашаюць усіх ахвотных. Збор удзельнікаў каля райвыканкама. Ад’езд у 12 гадзін.

**Аддзел інфармацыі.**

● МУЗЫКА

## Дамінак Жых прывёз з Італіі 2 месца

**СМАРГОНЬ.** Смаргонец узяў удзел у міжнародным конкурсе акардэаністаў-баяністаў, які ладзіў у італьянскім горадзе Ланчана.

Дамінік вучыцца ў шостым класе Смаргонскай школы мастацтваў імя М.К. Агінскага.

Яго бацька і адначасова настаўнік у музыцы **Часлаў Жых** мяркуе, што з сына проста не мог не выйсці музыкант. Уся сям’я: **Іна**, **Часлаў** і іх пяцёра дзяцей, – музыкі. У іх нават свой сямейны ансамбль ёсць.

Усяго ў пяцідзённым конкурсе прынялі ўдзел каля ста музыкаў з Расіі, Украіны, Італіі, Беларусі і Літвы.

**Настасся РОЎДА.**

● СПАЖЫВЕЦ

# Не хочаце плаціць за пакет – прасіце ўпакаваць у плёнку

**МАЛАДЗЕЧНА. Вы ведаеце, што за ўпакоўку пэўных тавараў пакупніку плаціць не трэба? А калі з вас узялі грошы за пакет ці іншую тару, то пра гэта можна напісаць у Кнізе скаргаў? Як выконваюць маладзечанскія крамы Закон аб гандлі, праверыла "РГ".**



Цяпер у магазінах прадаўцы павінны прапанаваць вам бясплатны варыянт упакоўкі тавару.

Сёлета ў сілу ўступіла пастанова Савета Міністраў №703, якая зацвердзіла Правілы продажу асобных відаў тавараў.

Паводле яе, тавары, што патрабуюць тары, перадаюцца пакупніку ў запакаваным выглядзе без даплаты.

Пры гэтым зусім не значыць, што тавар вам абавязаныя пакласці ў пакет. Упакоўкай лічыцца і папера, і харчовая плёнка, і кантэйнер. Прадавец павінны прапанаваць пакупніку адзін з варыянтаў.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" расказала начальнік аддзела гандлю і паслуг Маладзечанскага райвыканкама **Ірына Крук.**

– Калі вам адмовілі ўпакаваць тавар бясплатна, вырашайце пытанне з адміністратарам ці загадчыкам магазіна.

Нават калі ў магазінах упакоўка бясплатная, яе кошт можа быць уключаны ў цану тавару.

### Цана ўпакоўкі – 0 рублёў

У розных маладзечанскіх крамах да ўпакоўкі тавараў ставяцца па-рознаму.

У краме "Родны кут" пакеты насамрэч бясплатныя. Загадчыца магазіна №38 **Тамара Насадовіч** патлумачыла, што гэта новаўвядзенне ад пятніцы, 31 кастрычніка.

– Усё, што мы фасуем на месцы, прадаецца ў пакетах, за якія грошы не бяром. Калі, напрыклад, пакупнік па сваім жаданні захоча пакласці ў пакецік бутэльку мінералкі, то грошы, канешне, возьмем.

Адміністратар гандлёвага зала магазіна "Рублёўскі" **Вераніка Гайдук** паказала, што па ўсім гандлёвым зале размешчаныя стойкі з бясплатнымі пакетамі. На стойках надпіс: "Бясплатныя пакеты. Усё для зручнасці пакупніка". Адміністратар падкрэсліла, што новаўвядзенне ніяк не адбілася на цэнах.

У магазіне "Златка" пакет каштуе 250 рублёў, але калі вы не захочаце плаціць, прадаўцы прапануюць вам бясплатную харчовую плёнку.

Таму не саромейцеся прасіць у магазінах запакаваць вам тавар бясплатна.

**Наталля ТУР.**

### Тавары, якія, паводле Пастановы Савета Міністраў, патрабуюць ўпакоўкі ў абавязковым парадку:

**Харчовыя**: не запакаваныя пастаўшчыком ці вытворцам у спажывецкую тару; вагавыя тавары ва ўпакоўцы вытворцы, у тым ліку кілбасныя вырабы, сыры, цукровыя, кандытарскія і іншыя вырабы ў абалонцы, агортцы, плёнцы, пергаменце, паперы, хлебабулачныя вырабы, у тым ліку ва ўпакоўцы вытворцы ў выпадку разразання іх на часткі, прадукцыя ўласнай вытворчасці.

**Нехарчовыя**: усе, якія могуць быць забруджаныя або разбітыя пры транспарціроўцы, пасцельная і нацельная бялізна, панчошна-шкарпэткавыя вырабы, шкляны посуд, навагоднія цацкі і іншыя падобныя вырабы, а таксама тыя, што самі могуць забрудзіць альбо пашкодзіць рэчы пакупніка (мыла, напрыклад); дробнаштучныя: гузікі, кнопкі, цвікі, фурнітура, бігудзі, прышчэпкі; метражныя: тканіны, штучнае футра, нятканыя матэрыялы, стужкі, карункі, драты, шнуры; цыбуліны раслін, расада, насенне, пасадачны матэрыял, корм для жывёл, птушак і рыб.

| Курсы валют НБ РБ | 30.10 руб. | 5.11 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 10 710,00 | **10 730,00** |
| Еўра | 13 650,00 | **13 450,00** |
| Злоты | 3 232,43 | **3 167,71** |
| Літ | 3 949,84 | **3 881,63** |
| Расійскі рубель | 251,50 | **241,50** |
| Грыўня | 827,03 | **788,54** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Еўра | 13550/13700 | **13390/13500** |
| Долар ЗША | 10710/10780 | **10710/10770** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 29.10 Цана руб. | 5.11 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53700 | **53750** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28900 | **28900** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 29500 | **29500** |
| Селядзец, 1 кг | 32800 | **32800** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 95000 | **95000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14000 | **11000** |
| Грэчка, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| Алей "Масловія" | 14300 | **14300** |
| Маянэз, 200 г | 6850 | **6850** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 11700 | **11700** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 32000 | **32000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 10700 | **10700** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 4900 | **5500** |
| Капуста, 1 кг | 2500 | **2500** |
| Морква, 1 кг | 4500 | **4900** |
| Буракі, 1 кг | 5000 | **5000** |
| Лімоны, 1 кг | 23500 | **23000** |
| Апельсіны, 1 кг | 15900 | **15000** |
| Мандарыны, 1 кг | 23500 | **23000** |
| Памідоры, 1 кг | 21700 | **20000** |
| Агуркі, 1 кг | 23900 | **21000** |
| Перац, 1 кг | 22900 | **14500** |
| Кавун, 1 кг | 6000 | **6500** |
| Дыня, 1 кг | 17000 | **17000** |
| Вінаград, 1 кг | 18500 | **18500** |
| Бананы, 1 кг | 14500 | **14500** |
| Хурма, 1 кг | 23500 | **21000** |
| Яблыкі, 1 кг | 7500 | **8000** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 14900 | **18000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 90000 | **90000** |
| Тварог, 1 кг | 50000 | **50000** |
| Бульба, 1 кг | 4000 | **5000** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 50000 | **50000** |

● ЭКАНОМІКА

## Склалі рэйтынг 50 пасьпяховых бізнесменаў

### У спісе дзевяць прадстаўнікоў нашага рэгіёна

**ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА. Рэдакцыя інфармацыйнага партала "Ежедневник" пры ўдзеле групы экспертаў склала рэйтынг 50 паспяховых і ўплывовых бізнесменаў Мінскай вобласці ў 2014 годзе.**

На першым месцы кіраўнік холдынгу "БАТЭ-Аўтакампаненты"і ўладальнік футбольнага клуба БАТЭ **Анатоль Капскі**.

Маладзечаншчыну прадстаўляюць пяць чалавек, Вілейку – тры. У спісе ёсць і бізнесмен з Валожына.

**Паводле ej.by.**

**Прадстаўнікі нашага рэгіёна ў спісе**

| Месца | Прозвішча | Рэгіён | Інтарэсы |
|---|---|---|---|
| 10 | Валеры Бушыла, 60 год. | Маладзечна | дрэваапрацоўка |
| 21 | Віктар Вайцяшонак | Маладзечна | нерухомасць |
| 22 | Валеры Языкоў | Вілейка | машынабудаванне, будматэрыялы |
| 24 | Сяргей Жук | Вілейка | дрэваапрацоўка |
| 31 | Мікалай Батан, 47 год | Маладзечна | будаўніцтва, нерухомасць |
| 36 | Анатоль Бельскі | Маладзечна | дрэваапрацоўка |
| 42 | Уладзімір Баліцкі | Маладзечна | будматэрыялы, будаўніцтва, машынабудаванне |
| 46 | Андрэй Зубачоў | Вілейка | дрэваапрацоўка |
| 47 | Пётр Шчарбітаў і сям'я, 60 год | Валожын | будаўніцтва |

● НАШЫ ГРОШЫ

## Цэны на жыллёва-камунальныя паслугі вырастуць

**БЕЛАРУСЬ.** Ад 1 снежня сям'я з трох чалавек за камунальныя паслугі будзе плаціць 442 тысячы рублёў. Цэны вырастуць на 5,8%.

Пры нарматыўным спажыванні плацяжы на камунальныя паслугі сям'і з трох чалавек у снежні ўзрастуць у параўнанні з лістападам на 22,6 тысячы рублёў. Цану разлічвалі на двухпакаёвую кватэру плошчай 48 м$^2$.

Пераглядаць тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі для насельніцтва будуць кожны год ад 1 студзеня.

Тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі для насельніцтва, якія субсідзіруюцца дзяржавай (акрамя тарыфу на капітальны рамонт жылога дома) індэксуюць кожны квартал: 1 сакавіка, 1 чэрвеня, 1 верасня і 1 снежня з улікам росту даходаў насельніцтва.

**Паводле БелТА.**


Фота fotoblegraf.ru.

Калі жанчына заўважыла, што за ёй нехта сочыць, пазваніла сяброўцы і расказала пра свае падазрэнні.

● КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

# Згвалцілі жанчыну – мужчыну затрымалі па званку сяброўкі

**ВІЛЕЙКА. Здарэнне адбылося ў Вілейцы 31 кастрычніка каля 21-й гадзіны.**

Маладая жанчына ішла з працы дадому. У зацішным месцы заўважыла, што за ёй сочыць мужчына. Расказала па мабільным тэлефоне пра свае падазрэнні сяброўцы, і тая неўзабаве пачула ў трубцы крык.

Сяброўка патэлефанавала ў міліцыю. Супрацоўнікі мясцовага райаддзела ўнутраных спраў затрымалі 36-гадовага мужчыну. Ён сілай адвёў жанчыну ў іншае месца, за некалькі кіламетраў. Там і здзейсніў гвалтоўныя дзеянні.

Мужчына – жыхар Вілейкі. Сюды прыехаў жыць з Расіі.

Пра гэта расказаў намеснік начальніка РАУС начальнік міліцыі грамадскай бяспекі **Андрэй Дударчык.**

У Вілейскім райаддзеле Следчага камітэта паведамілі, што крымінальную справу ўзбудзілі па артыкуле "Згвалтаванне". Злачынства караецца абмежаваннем волі да чатырох год або пазбаўленнем волі ад трох да сямі год.

**Аддзел інфармацыі.**

## Згарэла фура з халадзільнікамі

**АСТРАВЕЦ. Расійская фура, гружаная халадзільнікамі, цалкам згарэла паблізу вёскі Хаценавічы ў Астравецкім раёне 2 лістапада.**

Яна ехала з Калінінграда ў Самару транзітам праз Літву і Беларусь. Фура перавозіла бытавыя халадзільнікі.

43-гадовы кіроўца, калі ехаў каля вёскі Хаценавічы, у люстэрка задняга віду заўважыў, што з паўпрычэпа яго фуры ідзе дым.

Спыніўся, каб паглядзець, што там гарыць. Спачатку сам спрабаваў патушыць, дапамагалі і кіроўцы, што праязджалі міма. Аднак полымя хутка распаўсюдзілася на ўсю машыну.

Кіроўца, зразумеўшы, што нічога выратаваць не паспее, забраў з кабіны дакументы і рэчы і адышоў на бяспечную адлегласць.

У выніку пажару аўтамабіль і груз знішчаныя цалкам. Паводле папярэдняй інфармацыі, фура загарэлася праз кароткае замыканне электраправодкі.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" паведаміў інспектар групы прапаганды і навучання Астравецкага райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Алег Шыць.**

**Наталля ТУР.**

● ТРАНСПАРТНАЯ МІЛІЦЫЯ

## Міліцыя прасочыць, як трымаюцца правілаў бяспекі на чыгунцы

**МАЛАДЗЕЧНА. Спецыяльны комплекс мерапрыемстваў ладзяць міліцыянеры ад 1 да 30 лістапада. Гэта дапаможа стабілізаваць рост няшчасных выпадкаў і злачынстваў на чыгунцы.**

Будуць правяраць чыгуначныя пераезды, станцыі, прыпыначныя пункты і прылеглыя тэрыторыі.

Міліцыянеры звернуць увагу, ці трымаюцца правілаў бяспекі пры пераходзе чыгуначных пераездаў, пуцей ці перад цягніком падчас руху.

Таксама праверацць, ці ёсць на аб'ектах чыгункі нецвярозыя.

Сёлета аддзел міліцыі на транспарце зарэгістраваў дзевяць фактаў траўмавання. Пасля пяці з іх ахвяра загінула, у трох выпадках пацярпелі сталыя людзі. Усе яны былі нецвярозыя, а пацярпелі праз тое, што не трымаліся правілаў бяспекі.

Нагадваем, што пераход чыгункі ў нявызначаным для гэтага месцы цягне штраф ад 0,2 да двух базавых велічынь (ад 30 да 300 тысяч рублёў).

Калі кіроўца парушае правілы на чыгуначным пераездзе, ён можа атрымаць штраф ад двух да чатырох базавых (ад 300 да 600 тысяч рублёў).

Просім вас выконваць правілы, якія гарантуюць бяспеку на чыгунцы.

**Таццяна СУБАЧ, старшы інспектар службы групы аховы правапарадку і прафілактыкі Маладзечанскага аддзялення ўнутраных спраў на транспарце.**

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Не змог перастроіцца і ўехаў у фуру

**МАЛАДЗЕЧНА. Кіроўцу "Форда" шпіталізавалі. Дзяржаўтаінспектары мяркуюць, што ён быў п'яны.**

Аварыя адбылася вечарам у пятніцу, 31 кастрычніка, адразу каля Цеплаэлектрацэнтралі (ЦЭЦ) на вуліцы Праектуемай.

39-гадовы кіроўца са Смаргоні ехаў на цягачы "ДАФ" з паўпрычэпам ад Вялікага Гасцінца на пуцепраўвод.

– Тут ён вырашыў пазваніць жонцы, – распавядае дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош**. – Спыніўся, уключыў аварыйку, набірае, гаворыць.

Па гэтай жа крайняй правай паласе з Вялікага Гасцінца ехаў 26-гадовы кіроўца "Форда". Ён хацеў перастроіцца на суседнюю крайнюю левую паласу, але там таксама рушыла машына.

– Таму сутыкненне з фурай стала непазбежным, – каменуе Сяргей Бартош. – Са слоў відавочцаў, кіроўца фуры адразу выскачыў, выклікаў медыкаў і ДАІ.

У інспектараў ёсць падазрэнне, што кіроўца "Форда" быў нецвярозы, але экспертыза яшчэ ідзе.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

● СЛУЖБА 101

## Праз перагрузку электрасеткі гарэў дом

**ВІЛЕЙКА. Блізка да апоўначы 29 кастрычніка гарэў дом у Вілейцы па завулку Савецкім. Загаранне было ў адной з кватэр двухкватэрнага дома. Людзі з абедзвюх кватэр выйшлі.**

Выратавальнікі апранулі маскі і зайшлі ў сярэдзіну. У зале гарэла шафа. Абгарэлі столь і сцены пакоя.

За шафай была разетка. Да яе падключылі падаўжальнік. Да яго – яшчэ адзін, а да таго – абагравальнік і свяцільню.

Узнікла перагрузка электрасеткі, разетка расплавілася, і пачалося загаранне, тлумачыць інспектар нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Балаш**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Варыла бульбу – згарэла летняя кухня

**ВІЛЕЙКА. Вечарам 29 кастрычніка здарыўся пажар у вёсцы Заблошчына Людвіноўскага сельсавета. Там гарэла летняя кухня.**

Папярэднічала загаранню тое, што жанчына распаліла печку ў летняй кухні, паставіла варыць бульбу. Калі потым хацела ўвайсці, то ўсярэдзіне ўжо быў агонь.

Пра гэта распавёў інспектар нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Балаш**.

**Аддзел інфармацыі.**

● УВАГА! ВЫШУК

## Шукаюць зніклую

**СМАРГОНЬ. Следчы камітэт расследуе крымінальную справу, якая была ўзбуджаная па факце знікнення жыхаркі Смаргоні Наталлі Якаўлеўны Шматок.**


Наталля Шматок.

Жанчына нарадзілася 5 ліпеня 1958 года ў горадзе Азоў Растоўскай вобласці Расійскай Федэрацыі.

Жыла па адрасе: Смаргонь, вуліца Гагарына, д. 26, кв. 139.

Наталля Шматок у чэрвені 2005 года выехала на сталае месца жыхарства ў Расію і да сённяшняга часу не падае пра сябе звестак.

**Прыкметы зніклай:** на выгляд 55-60 гадоў, хударлявага целаскладу, рост каля 165 сантыметраў, валасы светла-русыя.

Калі хто-небудзь ведае аб абставінах знікнення Наталлі Шматок, Следчы камітэт просіць паведаміць па тэлефоне 8-01592-2-11-16 або асабіста з'явіцца ў Смаргонскі РАСК.

**Смаргонскі аддзел Следчага камітэта.**

● АДУКАЦЫЯ

# Дзе найлепш рыхтуюць да ЦТ

**Пяць устаноў адукацыі рэгіёна трапілі ў сотню лепшых на Беларусі**

Гэта гімназія №7 Маладзечна, сярэднія школы №14 Маладзечна і №3 Вілейкі. А яшчэ – дзве ўстановы адукацыі са Смаргоні: гімназія і СШ №5.

Спіс ста лепшых навучальных устаноў па выніках цэнтралізаванага тэставання гэтага года агучыла Міністэрства адукацыі. Але школы ды гімназіі размешчаныя ў спісе ў адвольным парадку: без месцаў і балаў.

Аднак апроч спіса, партал TUT.BY прыводзіць яшчэ рэйтынг сярэдніх навучальных устаноў Беларусі па выніках цэнтралізаванага тэставання па асобных прадметах. Дадзеныя па заказе Міністэрства адукацыі збіраў Рэспубліканскі інстытут кантролю ведаў.

Найлепшых вынікаў у рэспубліцы сярод устаноў адукацыі рэгіёна дасягнула гімназія Смаргоні – трэцця месцы па рускай мове і хіміі. Чацвертае месца па нямецкай мове – у гімназіі №10 Маладзечна. Лепшыя вынікі ўстаноў рэгіёна па прадметах прыводзім ніжэй.

**Руская мова**

| Месца | Установа | Бал |
|---|---|---|
| 3 | гімназія Смаргоні | 74,75 |
| 69 | СШ №5 Смаргоні | 53,07 |
| 73 | СШ №14 Маладзечна | 52,26 |
| 85 | СШ №3 Вілейкі | 51,40 |

**Беларуская мова**

| Месца | Установа | Бал |
|---|---|---|
| 28 | Лебедзеўская СШ (Маладзечанскі раён) | 63,30 |
| 33 | СШ №11 Маладзечна | 61,58 |
| 40 | вілейская гімназія №1 "Логас" | 58,46 |
| 51 | гімназія №10 Маладзечна | 54,79 |
| 55 | СШ №3 Вілейкі | 54,40 |
| 67 | Гальшанская СШ | 52,50 |
| 68 | СШ №14 Маладзечна | 52,17 |
| 85 | СШ №9 Маладзечна | 48,06 |

**Матэматыка**

| Месца | Установа | Бал |
|---|---|---|
| 6 | гімназія-інтэрнат Мядзела | 62,50 |
| 46 | СШ №14 Маладзечна | 48,85 |
| 54 | СШ №3 Вілейкі | 43,85 |

**Фізіка**

| Месца | Установа | Бал |
|---|---|---|
| 43 | СШ №3 Вілейкі | 51,36 |

**Хімія**

| Месца | Установа | Бал |
|---|---|---|
| 3 | гімназія Смаргоні | 65,5 |
| 11 | гімназія №7 Маладзечна | 62,42 |
| 29 | СШ №5 Смаргоні | 53,12 |
| 77 | СШ №14 Маладзечна | 36,36 |

**Англійская мова**

| Месца | Установа | Бал |
|---|---|---|
| 13 | гімназія № 6 Маладзечна | 69,73 |
| 28 | гімназія Смаргоні | 65,46 |
| 52 | СШ №14 Маладзечна | 54,47 |
| 56 | СШ №5 Смаргоні | 52,86 |
| 59 | Нарацкая СШ №2 | 52,20 |

**Нямецкая мова**

| Месца | Установа | Бал |
|---|---|---|
| 4 | гімназія №10 Маладзечна | 62,90 |

**Гісторыя Беларусі**

| Месца | Установа | Бал |
|---|---|---|
| 56 | СШ №5 Смаргоні | 48,69 |

**Біялогія**

| Месца | Установа | Бал |
|---|---|---|
| 7 | гімназія №7 Маладзечна | 68,23 |
| 40 | СШ №5 Смаргоні | 54,82 |
| 76 | Мядзельская СШ №1 | 43,73 |

**По інфармацыі tut.by.**



У якіх гімназіях ды школах дадуць вашаму дзіцяці лепшыя веды – чытайце ў нашым артыкуле.

● КАМЕНТАР СПЕЦЫЯЛІСТА

## Як смаргонская гімназія атрымала найлепшы вынік у рэгіёне

**СМАРГОНЬ. Як гімназіі Смаргоні ўдалося трапіць і ў спіс 100 лепшых навучальных устаноў Беларусі, і заняць высокія месцы па выніках тэставання па хіміі, рускай мове? Пра гэта распавяла дырэктар установы Ірына Дурэйка:**

– Галоўнае тое, што ў нашай гімназіі вельмі добры калектыў, высокапрафесійныя педагогі. Найперш, гэта настаўніца рускай мовы і літаратуры **Святлана Самохіна**. У яе не першы год некалькі вучняў набіраюць звыш 90 балаў на цэнтралізаваным тэставанні. Яна выдатна рыхтуе вучняў да алімпіяд: сёлета чатыры гімназісты сталі прызёрамі абласнога тура.

Сярод настаўнікаў хіміі трэба адзначыць **Вольгу Грышан.** Маладая настаўніца, працуе пяць год. Свае добрыя веды ўмее перадаць вучням. Яна – настаўніца-эксперыментатар. У 2012-2014 гадах працавала па праекце "Адзін вучань – адзін камп'ютар".

Цэлая сістэма складзеная ў гімназіі па падрыхтоўцы да цэнтралізаванага тэставання. Сур'ёзныя, глыбокія па змесце ўрокі, дзе адпрацоўваюць усе элементы праграмы. Да іх – факультатыўныя заняткі, плюс стымулюючыя заняткі для адораных вучняў. А яшчэ – платныя адукацыйныя паслугі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Как управлять временем?

**В последнее время отделы бизнес-литературы в книжных магазинах наполнились книгами по тайм-менеджменту или правилам эффективного распоряжения своим временем. Эта современная наука учит нас успевать делать все и всегда, а в качестве главного инструмента для этого авторы все чаще называют смартфон.**




Один из самых известных производителей – Samsung – чуть больше других преуспел в создании максимально сбалансированных аппаратов, поэтому для практических уроков тайм-менеджмента мы рассмотрим одну из его последних моделей – Galaxy Grand Prime, старт продаж которой недавно состоялся в фирменных центрах продаж и обслуживания velcom.

Итак, эффективное управление временем. Первое, что для этого необходимо сделать, – составить план. Нужно привести в систему свое расписание – например, с помощью специального приложения. Подобных программ-планировщиков достаточно много, и они действительно помогают упорядочить список дел, распределить по степени важности рабочие вопросы и напомнить о дне рождения коллеги или непосредственного руководителя. Galaxy Grand Prime работает на операционной системе Android. Хорошие приложения для планирования для этой платформы: Any.do, Wunderlist Pro и Gtasks HD. Любое из этих приложений можно скачать из интернета, но белорусским пользователям лучше обращаться в AddApp от velcom. Этот сервис надежен и обладает интересным преимуществом – 10% от каждой покупки будут зачислены на специальный бонусный счет, чтобы впоследствии вы могли использовать эти средства для будущих покупок и обновлений существующих приложений.

Следующий шаг – экономия времени на логистике. Сегодня страшно подумать о том, что наши родители после работы сломя голову бежали на почту или в банк, чтобы оплатить все платежи до 25 числа месяца. Пользователь Galaxy Grand Prime же в любое время дня и ночи может проверить почту, оплатить городской телефон, интернет, электроэнергию или квартплату с помощью мобильного банкинга. Просто, быстро, удобно – вы можете делать эти вещи, стоя в пробке или сидя в очереди к терапевту.

Правильно планировать полезно не только работу или бытовые мелочи, но и отдых. Конечно, всем известно, что лучше не брать работу на выходные и стараться все домашние дела сделать быстро и качественно. С помощью смартфона спланировать выходные очень просто – в несколько кликов можно найти информацию о кинопоказах, театральных премьерах или тематических вечеринках вашего города, а если вы планируете домашние выходные – есть смысл занять своего ребенка новой серией мультфильма или игрой и потратить немного времени на себя.

Среди значимых достоинств этой модели числится также и приемлемая цена (а в фирменных магазинах velcom можно и воспользоваться акцией «Смартрассрочка» на 18 месяцев). К слову, с Galaxy Grand Prime получится сделать замечательные фото, ведь основная его камера – 8 мегапикселей, а фронтальная – целых 5 мегапикселей с увеличенным углом обзора. Немного сноровки, свободный доступ в любимую социальную сеть, и вы сможете делиться с друзьями самыми важными моментами своей жизни всегда и везде.

Интересно, что смартфон поможет не только оптимизировать свое время, но и развлечь, если это необходимо. Например, он может сыграть роль мини-кинотеатра или телевизора, если вы воспользуетесь приложением voka от velcom. Если вы любите спорт, то смартфон легко найдет подборку треков для пробежки, йоги или велотренажера. Если говорить в общем о мультимедийных возможностях Galaxy Grand Prime, то он может проработать в режиме видео до 10 часов, а в режиме аудиоплеера – до 70. Это все благодаря мощному аккумулятору в 2600 мАч. Кроме того, эта модель оснащена слотом для второй SIM-карты, что важно, когда у вас есть личный номер и рабочий телефон.

Доказано, что, правильно распоряжаясь своим временем, можно увеличить эффективность своей деятельности примерно на четверть. То есть в неделю можно экономить почти двое суток. Разумеется, здесь мы берем абсолютные значения, а в жизни все несколько сложнее. Тем не менее, результаты будут и вполне достойные. Ведь сделать все так быстро, как хочется, поможет ваш умный Galaxy Grand Prime.

Унитарное предприятие «Велком».
УНП 101528843



Фота забяспечана Алегам ДРАБЫШЭЎСКІМ.

"Гэта непадалёку ад мястэчка Гудагай, дзе знакаміты касцёл знаходзіцца. Толькі-толькі сняжок сышоў. Такую гісторыю раскажу. У 2000 годзе ў мяне была персанальная выстава ў Астраўцы. І на ёй прысутнічаў дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Уладзімір Пракапцоў. Калі ехалі з боку Ашмянаў, ён здзівіўся: "Дык гэта ж Швейцарыя!". На карціне гэта таксама бачна".

МАСТАЦТВА

# Прыдумайце назвы да карцін з Астравеччыны!

**АСТРАВЕЦ. Хочаце, каб вашы думкі захаваліся ў назве карціны? Калі ласка! У гэтым дапаможа "РГ" і мастак-жывапісец Алег Драбышэўскі з Мінска.**

Творца не забывае сваю малую радзіму – Астравеччыну. Прыязджае сюды, піша мясцовыя краявіды.

Сваю родная вёсачку Табарышкі ён увекавечыў у карціне "Родны кут. Гудагай. Табарышкі". А паэтка **Таіса Трафімава** ў час выставы жывапісу мастака ў Маладзечне ў 2000 годзе прысвяціла гэтаму твору верш.

– Аднойчы прыехаў і жартам пытаю ў дзяцей: "Як гэта трапіць на вуліцу Зялёную?"– прыгадвае Алег Драбышэўскі. – Разумееце, яны адказалі: "Гэта вам куды, у Табарышкі?" Зялёная – адна з вуліц пасёлка Гудагай ужо гадоў трыццаць, а пра былую вёску, як аказалася, мясцовыя жыхары памятаюць. Стаў пісаць лісты ў Гудагайскі сельсавет і змог вярнуць вуліцы гістарычную назву. Яна паходзіць ад табараў Тадэвуша Касцюшкі, што стаялі ў гэтых мясцінах у канцы 18 стагоддзя. Ад 2003 года вуліца Зялёная стала звацца Табарышкі.

Яшчэ адна карціна Алега Драбышэўскага – "Чубэйка 50-х". Яна адлюстроўвае былы, вядомы з далёкіх часоў фальварак і адзін з адукацыйна-культурных цэнтраў Астравеччыны дваццатага стагоддзя. Расказаў мастак, што з Чубэйкай звязана будаўніцтва прадпрыемства "БелАЗ" у Жодзіне, адраджэнне Мінска пасля Вялікай Айчыннай вайны. А ў гады гэтай вайны тут знаходзіўся лагер ваеннапалонных. Ад 2005 года творца сабраў матэрыял для вяртання і гэтаму месцу гістарычнай назвы замест абыякава дадзенай (вуліца Лясная ў пасёлку Гудагай).Цяпер Алег Драбышэўскі завяршае працу над дзвюма карцінамі, звязанымі з Астравеччынай. Нашы чытачы могуць дапамагчы прыдумаць назвы да іх. А пакуль мастак раскажа пра творы.



Фота забяспечана Алегам ДРАБЫШЭЎСКІМ.

"Гэта зімовы пейзаж. Люты, але такі лагодны, цёплы. Неяк прыязджаю на Астравеччыну да знаёмых. Раненька ўстаў, абышоў Астравец і пайшоў за некалькі кіламетраў у бок вёскі Бянькішкі. На карціне рака Лоша ўся ў лёдзе".

**Свае варыянты назваў можаце пакідаць у каментарах да артыкула. А таксама дасылаць на электронны адрас мастака – drobyshart@mail.ru ці нашай газеты – regionnews@rh.by. Альбо па пошце – "Рэгіянальная газета", Вялікі Гасцінец, 68-а, 222310, Маладзечна.**



Алесь ВЫСОЦКІ.
E-mail:
alvy@tut.by

ТЭАТРЫ

## "Батлейка" ўпершыню едзе на Нацыянальную тэатральную прэмію

**МАЛАДЗЕЧНА. "Тэатру трэба поспех. І такім поспехам я лічу спектакль "Шматкі па закавулачках".**

Так мяркуе галоўны рэжысёр Мінскага абласнога тэатра лялек **Мікалай Андрэеў**.

"Шматкі па закуточчках" па аднайменнай казцы Рыгора Остэра паспяхова прайшоў у Маладзечне. Ацанілі яго і на Беларускім міжнародным фестывалі, што адбыўся ў Мінску сёлета ў маі.

**Рэжысёр спектакля – Аляксандр Янушкевіч, мастак-пастаноўшчык – Таццяна Нерсісян, кампазітар – Аляксандр Літвіноўскі.**

Цяпер пастаноўку вылучылі на Нацыянальную тэатральную прэмію. Праводзяць яе ўжо ў трэці раз. У лік намінантаў "Батлейка" трапіла ўпершыню, хоць і падавала заяўку кожны раз.

На думку Мікалая Андрэева, адна з найбольш верагодных прычын, па якой тэатр трапіў у спіс, гэта змяненні ў самой арганізацыі прэміі. Раней усе тэатры разглядалі разам: і лялечны, і драматычны, і музычны. Таму ў выніку ў намінантах быў адзін ці два лялечныя тэатры.

Сёлета ж усіх падзялілі па асобных катэгорыях. Адпаведна, і патрабаванні да кожнай розныя.

– Хтосьці лічыць, што гэта несправядліва. А хтосьці не разумее, як можна параўнаць невялікі лялечны тэатр з оперным, – разважае галоўны рэжысёр. – Ёсць магчымасць сябе праявіць. Прэмія падсцёгвае і прымушае рухацца. Праца ёсць праца. Ён заводзіць.

**Прэмія пройдзе 25 лістапада ў Мінску ў Беларускім дзяржаўным тэатры лялек.**

Цяпер тэатр ужо пачаў падрыхтоўку да Новага года і Каляд. Гледачоў чакае спектакль "Шчаўкунчык".

– Гэта будзе спроба распавесці дзецям чыстую гісторыю Шчаўкунчыка. Каб ім усё было зразумела. Гофман – складаны аўтар. У нас жа ў асноўным публіка ад трох да сямі гадоў. І трэба зрабіць так, каб спектакль іх захапіў, – дадае Мікалай Андрэеў.

**Больш падрабязна пра прэм'ерную пастаноўку чытайце ў бліжэйшых нумарах "РГ".**

Настасся РОЎДА.

ЮБІЛЕІ

## "Радзей жыць у МІноры і часцей у мажоры" – жадалі дзіцячай школе мастацтваў

**МАЛАДЗЕЧНА. 30 кастрычніка Маладзечанская дзіцячая школа мастацтваў адсвяткавала 65-годдзе.**

Урачыстае мерапрыемства падзялілі на дзве часткі. Падчас першай уручылі ганаровыя граматы настаўнікам школы. Падчас другой на сцэне Палаца культуры выступілі творчыя калектывы: народны ансамбль "Анлібітун", аркестр "Сувенір", ансамбль "Усмешка" і "Тэксайд", хор "Журавачка" і "Светлячок", аркестар тэмбравых баянаў.

Пачаў мерапрыемства дырэктар **Уладзімір Яцыновіч**:

– У жыцці радаснае заўсёды ходзіць побач з самотным, – з сумам заўважыў ён. – Напярэдадні ўрачыстасці памёр адзін з лепшых выкладчыкаў нашай школы – **Міхаіл Таўгень**. Мы доўга сумняваліся, ці праводзіць мерапрыемства, раіліся з калегамі, сваякамі Міхаіла Аляксандравіча. Аднак прыйшлі да высновы, што лепшым помнікам для яго стане помнік у гуках, у музыцы.

Усе прысутныя ўшанавалі яго памяць хвілінай маўчання.

### Да юбілею пачалі рыхтавацца вясной

Павіншаваць з 65-годдзем дзіцячую школу мастацтваў прыехалі калегі з Мядзела, Вілейкі, Заслаўя, Браслава.

Госці крэатыўна падышлі да віншавання, напрыклад, выкарыстоўвалі ноты: "До. ДОстойных зарплат", "Чаще ДОставлять нам радость", "Мі. Радзей жыць у МІноры і часцей у мажоры і МІльённых заробкаў".

Юбілейныя мерапрыемствы да 65-годдзя пачаліся вясной. Тады прайшлі сустрэчы з выпускнікамі школы мастацтваў. Да друку падрыхтавалі буклет.

Галіна СІНІЦА.



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

У “Надзеі” дзеці могуць займацца ў розных гуртках. На занятках у педагога па маляванні Міхаіла Ляснічага Валерыя Жукава і Надзея Васільева са Сталбуноўскай школы Веткаўскага раёна.

● ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# Падаткі немцаў ідуць на здароўе беларускіх дзяцей

**ВІЛЕЙКА. Жыхар нямецкага горада Людвігсгефен на Рэйне Марк Ноер сказаў, наведваючы дзіцячы рэабілітацыйны цэнтр “Надзея” на беразе Вілейскага вадасховішча, што цяпер ён ведае, куды ідуць грошы з яго царкоўнага падатку.**

Лютаранская евангелічная царква Германіі стаяла ля вытокаў прадпрыемства “Надзея-21 стагоддзе”. І па сёння з’яўляецца адным з асноўных фундатараў дабрачыннага праекта, у фокусе якога цэнтр “Надзея”.

5 верасня 1994 года рэабілітацыйны цэнтр прыняў першых чарнобыльскіх дзяцей. Афіцыйнае адкрыццё адбылося 24 верасня. Сёння гэта таварыства з абмежаванай адказнасцю “Дзіцячы рэабілітацыйна-аздараўленчы цэнтр “Надзея”.

У 2014 годзе цэнтр – сучасны комплекс жылых, медыцынскіх, гаспадарчых будынкаў, гульнявых пляцовак, сельскагаспадарчы ўчастак, пчальнік. Акрамя нямецкіх партнёраў і Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Беларусі, японскіх сяброў, якія сталі ўдзельнікамі праекта, свой уклад ў аздараўленне чарнобыльскіх дзяцей робяць дзясяткі арганізацый і прыватных асоб з Беларусі, іншых краін.

Дзіцячы цэнтр “Надзея” рэалізуе праекты ў супрацоўніцтве з больш чым 30 дабрачыннымі арганізацыямі з 11 краін свету па санаторна-курортным лячэнні дзяцей.

**Ад 1994 года да жніўня 2014 года тут прайшлі санаторна-курортнае лячэнне і аздараўленне 69 тысяч 660 дзетак.**

Гэта дзецы, якія пастаянна жывуць на тэрыторыях, забруджаных радыяцыяй, з анкалагічнымі захворваннямі, з цяжкіх і малазабяспечаных сем’яў, дзеці-сіроты, з абмежаванымі магчымасцямі.

24 верасня 1994 года рэабілітацыйна-аздараўленчы цэнтр “Надзея” прыняў першых дзяцей. Сёння цэнтр адначасова прымае 310 чалавек, а ў летні час – 450 чалавек. Працягласць змены – 24 дні.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**
**Больш фота на сайце**

Rh.by

● ГРАМАДСТВА

## Прадстаўнікі Вілейшчыны былі другімі на конкурсе сем’яў выратавальнікаў

**ВІЛЕЙКА.** У Мінскім раёне 31 кастрычніка прайшоў другі абласны агляд-конкурс шматдзетных сем’яў работнікаў органаў і падраздзяленняў па надзвычайных сітуацыях Міншчыны.

Другое месца на ім заняла сям’я кіроўцы пажарнага аварыйна-выратавальнага паста №11 вёскі Куранец Вілейскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэя Атрошчыка.**

У конкурсе ўдзельнікі паказалі сямейны фотаальбом і свае вырабы, хатнюю выпечку, візітоўку сям’і, паведамляе абласное ўпраўленне па надзвычайных сітуацыях.

**Аддзел інфармацыі.**

● СПАЖЫВЕЦ

## 16 гандлёвых пунктаў у Маладзечне парушаюць правілы продажу прадуктаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета ў кастрычніку занальны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі праверыў выкананне санітарна-эпідэміялагічных правілаў у месцах продажу прадуктаў.**

Падчас праверкі ў двух месцах продажу гандлявалі прадуктамі з прайшоўным тэрмінам прыдатнасці. У сямі месцах на прадуктах не было маркіроўкі або поўнай інфармацыі аб прадукце. У сямі гандлёвых пунктах няправільна захоўвалі сырую і гатовую прадукцыю, выкладалі тавары ў вітрыны без латкоў, падносаў, захоўвалі тавары на падлозе без падтаварнікаў, стэлажоў.

Па выніках маніторынгу падрыхтаваныя два прадпісанні. Паводле іх, з абароту забяруць 17,7 кілаграма прадуктаў з непрыдатным тэрмінам выкарыстання або без ярлыкоў, аркушаў-укладышаў. Склалі дзесяць рэкамендацый па ліквідацыі парушэнняў.

Пакупнікі, якія заўважылі факты парушэння продажу прадуктаў, павінны звярнуцца ў дадзены гандлёвы аб’ект, паказаць чэк на пакупку і зрабіць запіс у Кнізе скаргаў і прапаноў.

**Паводле інфармацыі Міхаіла ГРАБОЎСКАГА, галоўнага доктара Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

● КОНКУРСЫ

## “Суперзорачкі” вучацца ў Вязыні

**ВІЛЕЙКА.** У цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі 29 кастрычніка прайшла раённая гульня “Суперзорачка”.

У гульні ўдзельнічалі 12 каманд з устаноў адукацыі, паведаміла метадыст цэнтра **Кацярына Нікіфарава**.

Лепш з трыма заданнямі справіліся прадстаўнікі Вязынскага дзіцячага сада-сярэдняй школы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

МАСТАЦТВА

# Цудадзейны абраз з Аборка выратавалі ад знішчэння

**МАЛАДЗЕЧНА. Гэта адзіная вядомая выява святога Роха ў Беларусі, якую эксперты лічаць шэдэўрам. Унікальны твор з Аборка цяпер месціцца ў Нацыянальным мастацкім музеі і чакае рэстаўрацыі, якая пачнецца праз два месяцы.**

– Найперш гэта цудадзейны абраз, – адзначае ксёндз-пробашч **Сяргей** парафіі святога Роха ў Палачанах. – У 19 стагоддзі многія з сённяшніх Маладзечанскага і Валожынскага раёнаў не чулі пра Будслаў, а ведалі пра Аборак, які пазней увайшоў у склад Палачанаў. І ў паломніцтва хадзілі менавіта да абраза святога Роха.

Ксёндз служыць у Палачанах некалькі год. Мясцовыя распавядалі пра святую рэч, але знайсці яе ўдалося не адразу. Аказалася, яна ў Нацыянальным мастацкім музеі. Мясцовы майстар **Рамуальд Стужынскі** сёлета зрабіў копію абраза, а ксёндз Сяргей спадзяецца, што святыня вернецца ў Палачаны:

– Яго месца ў цэнтры нашага касцёла. Гэта святыня, якая можа падняць духоўны ўзровень мясцовых жыхароў. А яшчэ яе вяртанне азначае гістарычную справядлівасць. Бо ў адваротным выпадку я бачу крадзеж.

## Каштоўнасць і будучыня абраза

– Безумоўна, гэта вельмі добры жывапіс першай паловы 19 стагоддзя, унікальны абраз, шэдэўр свайго часу, – ацаніла яго вядучы навуковы супрацоўнік аддзялення старажытнабеларускага жывапісу Нацыянальнага мастацкага музея **Любоў Сысоева**.

Але вызначыць яго каштоўнасць у грашовым эквіваленце эксперт не бярэцца. У тым ліку і таму, што многія адкрыцці могуць чакаць сучаснікаў падчас рэстаўрацыі пад рознымі слаямі.

Творам будуць займацца адразу два рэстаўратары: па жывапісе і па метале, які будзе працаваць з латунным акладам. Гэта складаны працэс, асабліва з жывапісам. Ён зойме год ці нават паўтара.

Як адзначыла Любоў Сысоева, абраза святога Роха няма ў найбуйнейшых калекцыях Беларусі. Ды і наогул, выява святога не была папулярнай на Беларусі. Палачанскі абраз – адзіны вядомы. Магчыма, што пасля рэстаўрацыі ён з'явіцца ў пастаяннай экспазіцыі.

## Як удалося захаваць шэдэўр

Як шэдэўр з Аборка апынуўся ў Нацыянальным мастацкім музеі?

Любоў Сысоева паведаміла, што яго перадалі з маладзечанскага музея (цяпер Мінскі абласны краязнаўчы музей).

Дырэктар музея **Таіса Лянкевіч** праверыла дакументацыю. Аказваецца, што, паводле яе, не тое, каб абраз камусьці перадавалі, яго наогул ніколі не было ў фондах. Таму калі перадача і была, то без папер.

Сваё тлумачэнне гэтай сітуацыі мае мастацтвазнаўца **Аляксандр Ярашэвіч**:

– Я не ўпэўнены і магу толькі здагадвацца, што абраз святога Роха ўратаваў ваш выдатны гісторык **Генадзь Каханоўскі**, які ў той час быў дырэктарам музея.

Падчас савецкай кампаніі па знішчэнні святыняў ён мог без шуму і папер перадаць абраз калегам, якія гарантавалі б яго бяспеку.

Эксперт падкрэслівае, што беларускі абраз 19 стагоддзя пасля "пагрому бальшавікоў" для нас мае асаблівую каштоўнасць. Як святыня, якую змаглі зберагчы, нягледзячы ні на што.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Копію абраза святога Роха зрабіў жыхар Палачанаў Рамуальд Стужынскі. Рох – каталіцкі святы, абаронца хворых на чуму і халеру, хваробы ног і скуры, паломнікаў, хірургаў, сабак і свойскай жывёлы. Аўтар твора невядомы, але, магчыма, пад слоем лаку знойдуць аўтограф. Хаця вельмі спадзявацца на гэта не варта: абразы мастакі звычайна не падпісвалі.

КАЛЯНДАР

**7 лістапада.** 1948 год. У Ватэнштэце (Ніжняя Саксонія, Германія) у аўтакатастрофе загінуў Хведар Ільяшэвіч, беларускі паэт, журналіст, празаік, гісторык, грамадска-культурны дзеяч эміграцыі ў Германіі. Магістр філасофіі за дысертацыю "Друкарня дома Мамонічаў" у Вільні (1936). У 2000 годзе дзякуючы Міхасю Казлоўскаму ў Маладзечне пабачылі свет асобнай кніжкай выбраныя "Творы" Хведара Ільяшэвіча.

***

**8 лістапада.** 150 гадоў назад (1864) заснаваная Маладзечанская настаўніцкая семінарыя (існавала да 1920 г.), адна з першых у Расіі. Сярэдняя спецыяльная навучальная ўстанова, якая рыхтавала настаўнікаў пачатковых класаў. У 1915 годзе пераведзеная ў Смаленск. Размяшчалася яна на былой Замкавай вуліцы. У ёй маглі вучыцца юнакі з 17 гадоў, выхадцы з розных саслоўяў, але перавага аддавалася дзецям сялян. Семінарыя мела бібліятэку з 3500 тамоў, музей, тэатр, хор, метэаралагічную станцыю і сімфанічны аркестр. Яшчэ пры семінарыі функцыянавалі царква ды бальніца. Акрамя прадметаў, выхаванцаў навучалі сталярнай справе ў майстэрні, а таксама выкладалі тэорыю садоўніцтва і агародніцтва.

***

**230 гадоў** з дня нараджэння Нарбута Тэадора (Фёдара Яўхімавіча) (1784 – 1864), беларускага гісторыка, археолага.

***

**10 лістапада.** 265 гадоў з дня нараджэння Мацея Радзівіла (1749 – 1800), дзяржаўнага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага, кампазітара, драматурга.

***

11 лістапада. 105 гадоў з дня нараджэння Георгія Заборскага (1909 – 1999), беларускага архітэктара, народнага архітэктара СССР, заслужанага будаўніка Беларусі. Прымаў актыўны ўдзел у распрацоўцы праектаў планіроўкі і забудовы Мінска, Полацка, Оршы, у праектаванні плошчаў Мінска: Леніна (Незалежнасці), Цэнтральнай (Кастрычніцкай), Круглай (Перамогі). Ім былі створаны Суворaўскае вучылішча, помнік-манумент на плошчы Перамогі ў Мінску. У 1952 годзе спраектаваў дом для сям'і Якуба Коласа. Пасля смерці паэта прымаў удзел у стварэнні помніка на яго магіле, а праз некаторы час і помніка на плошчы Я.Коласа ў Мінску. Адной з апошніх яго работ стаў праект помніка ахвярам масавых рэпрэсій у Курапатах.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

У СВЕЦЕ ПАЖОЎКЛЫХ СТАРОНАК

# Старая Вільня Язэпа Горыда



Заходнебеларускі мастак Язэп Горыд нарадзіўся ў эмігранцкай сям'і ў Адэсе ў 1896 годзе. Удзельнік першай сусветнай вайны. У 1921 вяртаецца на радзіму. Вядомы як мастак-графік, які афармляў беларускія кнігі, мастак-манументаліст. Значную частку свайго жыцця пражыў у Вільні. Па некаторых звестках загінуў 1 верасня ў Варшаве.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**



Язэп Горыд супрацоўнічаў з многімі віленскімі выданнямі. Газета "Слова" за 20 лютага 1932 года сваю першую старонку, прысвечаную 10-годдзю ўваходжання квазідзяржаўнага ўтварэння "Сярэдня Літва" ў склад Польшчы, адкрывае панарамнай гравюрай Горыда з відамі Вільні. У цэнтры – Вострая Брама.



Фота Наталі ТУР.

Звярнуўшыся ў паліклініку па рэцэпт, вы наўрад ці паспееце прачытаць кнігу, таму што чаргі ў кабінет памочніка доктара няма.

● СПАЖЫВЕЦ

# Выпішыце таблеткі, што памагаюць суседцы

## Каб выключыць самалячэнне сярод пацыентаў, увялі новыя правілы продажу лекаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад кастрычніка ў Беларусі ўступіў у сілу новы парадак водпуску лекаў у аптэках. Цяпер рэцэпты лекаў, якія прадаюцца за поўны кошт, павінны заставацца ў аптэцы.**

Пракаментаваць новую пастанову мы папрасілі загадчыцу маладзечанскай паліклінікі №1 **Святлану Дубаневіч:**

– У пастанове Міністэрства аховы здароўя ад снежня 2006 года пералічаныя ўсе прэпараты, якія адпускаюцца без рэцэпта дактароў. Яны па-ранейшаму будуць прадавацца ў аптэках без абмежаванняў. Што тычыцца прэпаратаў, якія назначылі дактары, то рэцэпты на іх сапраўды будуць забіраць фармацэўты пры пакупцы.

Акрамя таго, змяніўся і тэрмін дзеяння рэцэптаў. Калі раней ён быў сапраўдным тры месяцы, то цяпер тэрмін прыдатнасці скараціўся да двух.

**– Як быць, калі тэрмін лячэння будзе больш доўгім, чым тэрмін дзеяння рэцэпта?**

– У гэтым выпадку лекавы сродак можа быць выпісаны на некалькіх рэцэптурных бланках. Пры гэтым на кожным бланку доктар ставіць парадкавы нумар рэцэпта, выпісанага на дадзены курс лячэння. У гэтых выпадках дзеянне першага рэцэпта пачынаецца з дня яго выпіскі, а тэрмін дзеяння другога і наступных рэцэптаў пачынаецца за 5 дзён да заканчэння тэрміну дзеяння папярэдняга.

**– Калі выпісваюць дарагія прэпараты, некаторыя купляюць не адразу ўсе, а толькі частку лекаў, напрыклад, адну пласцінку таблетак.**

– І ў такім выпадку рэцэпт у аптэцы будуць забіраць. Але дактары часцей выпісваюць беларускія лекі, кошт якіх прымальны для кашалька любога пацыента.

У хуткім часе ў паліклініках заменяць і бланкі рэцэптаў. Лекі, якія знаходзяцца пад асаблівым кантролем, будуць выпісваць на бланках жоўтага колеру.

Яшчэ адно нававядзенне тычыцца таго, што рэцэпт цяпер будуць выпісваць толькі на адзін прэпарат.

**– Як вы лічыце, гэта пастанова апраўданая?**

– Так. Праблема нашых людзей у тым, што многія сябе проста "закормліваюць" антыбіётыкамі і пры гэтым гадамі не звяртаюцца да дактароў. Цяпер жа за курсам лячэння дактарам будзе прасцей сачыць.

А што яшчэ горш, то многія нашы пацыенты лечацца па метадзе: "А мне параіла суседка". У мяне быў выпадак, калі пацыент прасіў назначыць яму "вельмі харошы" прэпарат, які прымае суседка ад арытміі.

**Я яму кажу: "У вас жа няма арытміі", а ён мне: "Ну і што, лякарства ж харошае".**

Што тычыцца чаргі па рэцэпты, то "ажыятажу гэта ствараць не павінна, таму што рэцэпт можна будзе ўзяць у памочнікаў дактароў. А іх у гарадской паліклініцы працуе 11 чалавек", – тлумачыць Святлана Дубаневіч.

### Да памочнікаў доктара чаргі няма

Праверыць, ці так гэта, мы вырашылі ў панядзелак каля 10 гадзін раніцы.

У рэгістратуры ні аднаго чалавека.

Медрэгістратар **Тамара Яфімчык** гаворыць:

– Талон да памочніка доктара можна ўзяць свабодна і ў любы час. У кожным аддзяленні паліклінікі працуе 3-4 памочнікі доктара. І папярэдне талон заказваць не трэба.

Пад кабінетам чакае адна наведніца.

**– Ці зручны такі парадак выдачы рэцэптаў?** – пытаюся ў яе:

– Я ўпершыню прыйшла па рэцэпт, таму цяжка сказаць. Але я бяру рэцэпт не сабе, а сваёй састарэлай маці. Таму гэта вельмі зручна, што не трэба браць талон да доктара. Чакаю я хвілін 10 пад кабінетам.

У каментары на сайце Міністэрства аховы здароўя Беларусі пазначана, што гэтыя змены зробленыя для таго, каб выключыць самалячэнне.

Пры хранічным захворванні раней падабраная схема лячэння праз некаторы час можа патрабаваць карэкціроўкі дозы прэпарату, перыядычнасці прыёму, а часам – і поўнай замены схемы лячэння. Таму наведваць памочніка доктара варта толькі тады, калі вы ўжо атрымалі рэцэпт, які выпісаў асабіста для вас доктар-спецыяліст.

**Наталля ТУР.**

● ТВОРЧАСЦЬ

# Віляйчан аб'яднала любоў да беларускай паэзіі

**ВІЛЕЙКА. За лічаныя месяцы пажылыя віляйчане выдалі дзве кнігі і даведаліся шмат новага пра беларускіх паэтаў. Дапамагла ім у гэтым літаратурная гасцёўня "Дамінанта душы".**



Фота забяспечана Марынай МАКАРАВАЙ.

Ідзе прэзентацыя зборніка "Яшчэ не позна...". Свае вершы чытае Зінаіда Губарава-Крупская.

З'явілася яна ў пачатку гэтага года. Удзельнічаюць у працы гасцёўні дзесяць чалавек. Гэта людзі з абмежаванымі магчымасцямі, амаль усе пажылыя. Сярод іх ёсць малалетнія вязні фашысцкіх канцлагераў.

Не ўсе з іх пішуць ці спрабуюць пісаць вершы – некаторыя проста любяць паэзію.

Ідэя згуртаваць аматараў паэзіі прыйшла да колішняй настаўніцы **Антаніны Гарчаковай.** Яна выкладала беларускую мову і літаратуру амаль паўстагоддзя. І лічыць, што задача гасцёўні – прапагандаваць беларускую літаратуру.

Прызнаецца, што аб'яднанне дапамагае людзям не сядзець склаўшы рукі, а займаць актыўную жыццёвую пазіцыю.

### Самі выступаюць з вершамі

Працуе літаратурная гасцёўня ў межах праекта "МОСТ – міласэрнасць, зносіны, супрацоўніцтва, талерантнасць". Ён рэалізуецца на базе Вілейскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.

Збіраюцца ўдзельнікі гасцёўні не менш за адзін раз на месяц. Кожная сустрэча – тэматычная. Напрыклад, прысвячаліся яны паэтам **Ганне Новік, Адаму Гурыновічу, Яўгеніі Янішчыц.** Удзельнікі рыхтуюцца да іх старанна: хтосьці развучвае вершы, хто паведамленні складае. Калі інфармацыі ў кнігах недастаткова, то просяць, каб у інтэрнэце дапамаглі пашукаць.

Пабывалі віляйчане ў Ільянскай сярэдняй школе імя Адама Грымаця, наведалі там музеі. Удзельнічалі ў розных мерапрыемствах. Прыкладам, у імпрэзе да 100-годдзя **Ганны Новік**. Некаторыя апошні раз вершы дэкламавалі ў школе, а тут на сур'ёзным мерапрыемстве давялося выступаць.

### Плюс новыя кнігі

Да ўсяго ў літаратурнай гасцёўні займаюцца выданнем кніг. Дапамагае ў гэтым раённая цэнтральная бібліятэка імя Ганны Новік. Першае выданне – гэта зборнік вершаў "Яшчэ не позна...". У кнігу ўвайшлі вершы **Антаніны Гарчаковай, Зінаіды Губаравай-Крупскай, Галіны Капцюг, Марыі Лазовік, Барыса Манцэвіча, Аляксандра Навуменкі.** Нядаўна з'явіўся паэтычны зборнік Антаніны Гарчаковай "Рэха душы".

– Чым гасцёўня стала для ўдзельнікаў? – пытаюся ў спецыяліста тэрытарыяльнага цэнтра па сацыяльнай рабоце **Марыны Макаравай**.

– Для людзей важна тое, што могуць у чымсьці новым сябе адкрыць і падзяліцца з іншымі. А яшчэ – адпачыць душой, дакрануцца да літаратуры. І пазнаёміцца: некаторыя раней не ведалі адзін аднаго, а зараз падтрымліваюць сувязь.

Тым часам віляйчане працягваюць папулярызаваць беларускую паэзію. У лістападзе ў літаратурнай гасцёўні намечана сустрэча з паэтамі Вілейшчыны. А на заканчэнне года будуць рыхтаваць вершы пра Беларусь.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ПАРАДЫ ПСІХОЛАГА

# Жанчына можа забіць, каб пазбавіць ад пакут

**МАЛАДЗЕЧНА. Чаму жанчына можа пайсці з жыцця, трымаючы за руку сваіх дзяцей? Што можа засцерагчы ад трагедыі і як навучыцца вырашаць сямейныя праблемы?**

Выпадкі суіцыду ніколі не пакідаюць раўнадушным, але калі сябе забівае маці, якая ставіць пад удар ці забірае з сабой дзяцей, гэта проста шакуе.

Сёлета ў Мінску міліцыянер з Маладзечна **Антон Астровец** выратаваў аднагадовую дзяўчынку, якая магла зваліцца з акна шматпавярхоўкі. Яе мама ў гэты момант ляжала на дарозе з парэзамі на руцэ. Як паведамляе афіцыйны сайт Міністэрства ўнутраных спраў, жанчына спрабавала пайсці з жыцця.

"РГ" папрасіла пракаментаваць прычыну такіх сітуацый псіхолага Маладзечанскага раённага тэрытарыяльнага цэнтра **Алену Каміcарук**.


Фота allahr777.ru.

Многія праблемы можна вырашыць, калі своечасова звярнуцца па дапамогу.

### Жанчына можа паддацца эмоцыям

Даць дакладны адказ, чаму жанчыны рашаюцца на такія ўчынкі, немагчыма. Калі глядзець на гэта з псіхалагічнага пункту гледжання, найчасцей прычынай могуць быць накопленыя нявырашаныя праблемы.

Жаночая натура вельмі пачуццёвая і эмацыйная. І жанчыны найчасцей ідуць на суіцыд у стане афекту, на піку эмоцый, не асэнсоўваючы да канца, што робіць.

### Не бачыць іншага сродку пазбавіць ад пакутаў

Калі ёсць праблема, жанчына можа яе вырашыць тады, калі мае пазітыўны досвед. Гэта значыць, калі яна бачыла, як іншыя вырашаюць падобныя праблемы, напрыклад, бацькі.

Калі ж досведу няма – напрыклад, у жанчын, што сталі сіротамі, гадаваліся ў дзіцячых дамах, – то яны проста не ведаюць, як справіцца. Любая цяжкасць прыводзіць да думак пра суіцыд.

А думае жанчына, асабліва пра маленькіх дзяцей, што без яе яны безабаронныя: "Калі я не магу памагчы, то каму яны будуць патрэбныя?" І не хоча пакінуць іх на пакуты. Таму яна можа спачатку пагубіць іх, а пасля і сама зводзіць рахункі з жыццём. Бо баіцца пакінуць іх адных.

### Жанчына будзе змагацца да апошняга

Найчасцей для жанчыны крокам да суіцыду будзе складанае фінансавае становішча: неаплата дзіцячага садка, нізкі заробак, даўгі.

Звычайна жанчына будзе пераадольваць усё дзеля сваіх дзяцей, паіншаму не дазволіць мацярынскі інстынкт. Яна развітаецца са сваім гонарам, будзе рабіць усё, што ў інтарэсах дзяцей. Але часам можа проста не бачыць выйсця.

А яно заўсёды ёсць. Проста патрэбны чалавек з боку, які паглядзіць на вашу праблему і дапаможа знайсці яго.

Ёсць адрозненні ў суіцыдальным сцэнары мужчыны і жанчыны. Яна заўсёды падумае пра дзяцей. Ён не будзе думаць пра дзяцей і жонку, а толькі бегчы ад праблемы.

Здаровая моцная асоба, якая ўмее вырашаць праблемы, будзе змагацца да апошняга, нягледзячы на абставіны.

### Як паспець паўсюль

Гэта не новая праблема, на яе проста пачалі звяртаць увагу і рэагаваць дзякуючы праграмам па абароне правоў жанчын.

У сувязі з хуткім інавацыйным развіццём грамадства развіваюцца новыя патрабаванні да жыцця, само жыццё становіцца іншым – хуткім. Трэба паспець паўсюль.

Разгледзім частую сітуацыю, калі жанчына адна выхоўвае двое дзяцей. Ёй трэба завесці аднаго ў сад, другога – у школу, справіцца па гаспадарцы, зарабіць грошы, плаціць па плацяжах, адзець, абуць, адправіць, як і іншых дзяцей, на экскурсіі. І ўсё гэта трэба тут і цяпер.

А каб паспець усё, трэба разарвацца, яна проста фізічна не паспявае справіцца з усім. Гэта нагнятае напружанне.

**Жанчына бяжыць не спыняючыся і не робіць уздыху.**

Сучасная жанчына мае вельмі многа роляў. Часам сама яна іх і выбірае. Спрадвечна мужчына здабытчык. Жанчына, седзячы дома, наслухалася папрокаў, што многа траціць, сядзіць дома і нічога не робіць, асабліва калі з малымі дзецьмі. Таму яна хоча незалежнасці. Яна пачынае працаваць і дамагаецца поспеху. Безумоўна, цяпер ёй складана быць такой жа добрай гаспадыняй. А калі яна імкнецца зрабіць усё, то хутка выгарае эмацыйна. Шэраг праблем нараджаецца, калі не паважаюць працу жанчыны як маці, як гаспадыні, як работніка.

Найчасцей жанчына думае пра смерць, калі сама перажыла страту. Яна вынослівая, і вытрымаць адзін удар лёсу можа. Але калі праблемы накопліваюцца, адной спраўляцца з імі цяжка.

Грубасць, бестактоўнасць мужчыны, ігнараванне яе як жанчыны, пастаяннае прыніжэнне нараджаюць шэраг комплексаў, якія могуць прывесці да рашэння пайсці з жыцця.

### Вызначыць для сябе галоўнае

Я схіляюся да таго, што галоўны прыярытэт жанчыны – захоўваць дамашні ачаг і выхоўваць дзяцей. Гэта не выключае ўсе шматлікія іншыя ролі, але не трэба іх ставіць на адзін узровень, варта зразумець, што для вас самае галоўнае.

Калі б жанчына не мела клопату, дзе здабыць, дзе зэканоміць, дзе купіць танней, напэўна, мы бачылі б у сям'і ураўнаважаную шчаслівую жанчыну, якая клапоціцца пра сям'ю.

### Як навучыцца рашаць праблемы

Для гэтага і ёсць кансультацыйныя цэнтры, дзе бясплатна і ананімна можа атрымаць кансультацыю кожны, хто ў цяжкай жыццёвай сітуацыі. Часта 1-2 кансультацый дастаткова. Чалавек сам знаходзіць выйсце.

Вялікі ўрон інстытуту сям'і прыносіць сужыцельства, калі людзі сыходзяцца на прынцыпе: не спадабаецца – разбяжымся. Партнёры не маюць ніякай адказнасці адзін перад адным. І такі саюз заснаваны на жарсці і прыцягненні, а не на павазе і каханні.

Людзі думаюць, як зарабіць грошы, як лепш адзецца, але не думаюць, як захаваць сям'ю. І паступова сям'я ператвараецца ў вайну, дзе кожны хоча раніць партнёра, каб самасцвердзіцца самому. Каб не дапусціць такога, трэба працаваць над адносінамі, над сабой, разам пераадольваць цяжкасці. Сям'я – гэта штодзённы кампраміс.

Зоя ХРУЦКАЯ.

**Найчасцей ідуць на суіцыд нецвярозыя**

Паводле аналізу суіцыдальных паводзінаў за дзевяць месяцаў Маладзечанскага псіханеўралагічнага дыспансера, сёлета пайшло з жыцця 28 жыхароў. З іх – 22 мужчыны і 6 жанчын. Найбольш распаўсюджаны спосаб – праз павешанне ці падзенне з вышыні.

– Пераважна сыходзяць з жыцця ў стане алкагольнага ап'янення. Некаторыя ідуць на суіцыд асэнсавана: каб пазбавіцца адзіноты ці ведаючы пра анкалогію. Але гэта адзінкавыя выпадкі, – адзначае медстатыстык **Алена Цвяткова**.

Аўтарская калонка

Галіна Сініца



НАЎМЫСНА НЕ ПРЫДУМАЕШ

## Як я захварэла на зефір і вылечылася

Як мары аб канапе, спакоі і нечым салодкім абярнуліся хваробай, якую не змог вылечыць інтэрнэт.

Працоўны дзень у рэдакцыі выдаўся дастаткова напружаны. Таму, ідучы дадому, марыла, што плюхнуся на канапу, пагляджу тэлевізар і з'ем нечага салодкага.

Свой план я пачала выконваць адразу: зайшла ў магазін і купіла сабе зефіру ў шакаладнай глазуры з арэхамі. Прыйшоўшы, уключыла тэлевізар, узяла пад бок зефір у шакаладзе.

Як самы знакаміты дэгустатар у свеце я адкусвала зефір па маленечкім кавалачку – смакуючы ў роце. Зразумела, што шакалад паступова раставаў у руках. Аднак я не звяртала на гэта ўвагі.

І раптам мае планы парушыў тэлефонны званок. Не задумваючыся, выцерла адну руку аб другую і пачала размаўляць. Пасля працягнула трапезу, забыўшыся, што адна рука ў шакаладзе.

І наколькі была здзіўленая, а дакладней жахнулася, калі ўбачыла чорныя кропачкі і палосачкі да локця. Пачалася паніка.

Вырашыла параіцца з інтэрнэтам. Ён пачаў адказваць пра незбалансаванае харчаванне, парушаную нервовую сістэму, недахоп вітамінаў, непаладкі ў сардэчна-сасудзістай сістэме і многае іншае. Прыняла дыягназ інтэрнэту як прыгавор. Усё, жыццё скончанае, я цяжкахворая на сэрца, сасуды, нервы.

Стомленая, села на канапу і яшчэ раз паглядзела на руку з кропачкамі і рысачкамі. Толькі цяпер я здагадалася пацерці іх пальцамі. Сціраюцца, а на смак саладкія. І тут я ўзгадала, як выцірала адну руку з шакаладам аб другую.

Так мая хвароба змылася вадой, і я вылечылася.



**Змяненні ў курсіраванні цягнікоў рэгіянальных шляхоў зносін**

Ад 6 да 9 лістапада змяняецца рух цягнікоў рэгіянальных ліній эканом-класа на ўчастку **МАЛАДЗЕЧНА-МІНСК:**

у суткі **6 лістапада – як па пятніцах**
у суткі **7, 8 лістапада – як па суботах**
у суткі **9 лістапада – як па нядзелях**

На ўчастках
МАЛАДЗЕЧНА-**ЛІДА**
МАЛАДЗЕЧНА-**ГУДАГАЙ**
МАЛАДЗЕЧНА-**КРУЛЕЎШЧЫНА**

у суткі **6 лістапада – як па рабочых днях**
у суткі **7, 8, 9 лістапада – як па выхадных днях**

**7** і **8 лістапада** назначаецца ДАДАТКОВЫ ЦЯГНІК **Маладзечна-Параф'янаў-Маладзечна** адпраўленнем са **станцыі Маладзечна** ў **7:38** і прыбыццём на **станцыю Маладзечна** ў **11:53**

УП "Мінскае аддзяленне беларускай чыгункі, станцыя Маладзечна, УНП 600199541




Фота з сайта fc-smorgon.ucoz.ru

Стары аўтобус "Смаргоні" не заўсёды спраўна возіць гульцоў на матчы.

● ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА

# Заўзятары "Смаргоні" збіраюць подпісы,
## каб у клуба з'явіўся новы аўтобус

**СМАРГОНЬ. Чаму ў "Смаргоні" стары аўтобус і калі будзе новы?**

Гэта пытанне хвалюе даўняга заўзятара футбольнага клуба **Васіля Шчаслівцава**:

– Аўтобус ужо стары, хоць і выглядае досыць прыгожа, – тлумачыць ён. – Яму недзе 22 гады. Калі клуб яго купляў, аўтобус ужо быў у карыстанні. Крыўдна, што ён ламаецца. Бывала такое, што на матч гульцы на маршрутках дабіраліся. Бывала, што мы, заўзятары, з футбалістамі звязваемся: "Дзе вы там заселі?". Падвозім. А то чую, што зламаўся аўтобус, і юныя гульцы не паехалі на матч. Заўзятары "Смаргоні" іншым камандам зайздросцяць: "Вунь клуб кепска гуляе, а які аўтобус у іх добры. А ў нас чаму стары?" Як езджу ў Расію, бачу, што там у некаторых клубаў нават па два-тры аўтобусы.

Васіль звяртаўся на "прамую лінію" ўпраўлення спорту і турызму Гродзенскага аблвыканкама. Цяпер сабраў каля 380 подпісаў смаргонцаў, каб клубу дапамаглі набыць добры аўтобус. Збіраецца з подпісамі з'ездзіць ў тое ж абласное ўпраўленне спорту і турызму, потым – у Мінск.

– Можа, суботнік зрабіць, каб ахвотныя смаргонцы папрацавалі, – знаёміць са сваім ідэямі Васіль. – Можа, спонсары аб'явяцца. Я і сам бы грошы ўнёс, ведаю, што яшчэ людзі далучацца. Трэба аўтобус купіць – гэта візітка футбольнага клуба.

А вы як лічыце, хто павінны дапамагчы клубу з аўтобусам? Заўзятары, раён, вобласць...

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● ФУТБОЛ

## Каманда "Маладзечна-ДЮСШ-4" фінішавала трэцяй у чэмпіянаце вобласці

### Вартая фіналу гульня завяршылася ўнічыю

**МАЛАДЗЕЧНА. Слёзы расчаравання на вачах маладых гульцоў "Маладзечна-ДЮСШ-4" можна было бачыць пасля матча з "Любанню". Яны змагаліся да апошніх хвілін, але не здолелі вырваць перамогу ў вырашальным матчы.**

На кану быў тытул чэмпіёна вобласці. У заключным туры чэмпіянату вобласці па футболе ў Маладзечне 1 лістапада сустракаліся два лідары – "Маладзечна-ДЮСШ-4" і "Любань".

Каб маладзечанцам перамагчы ў чэмпіянаце, трэба было абыграць "Любань": наша каманда адставала на два ачкі. Аднак маладзечанцы дабіліся толькі нічыёй 2:2. І як вынік – трэцяе месца.

– Усё было ў нашых руках, але не рэалізавалі свае моманты, – дзеліцца ўражаннямі маладзечанскі заўзятар **Рыгор Кароль**. – У "Любані" былі два моманты за гульню, яны іх выкарысталі. Ды і суддзя, дарэчы, з Жодзіна, у чарговы раз не паставіў два пенальці. Праўда, у канцы гульні выправіўся, але наш гулец не рэалізаваў пенальці.

Расказаў Рыгор Кароль, што ў першым тайме маладзечанцы больш прыглядаліся да гасцей. У другім тайме ўсе 45 хвілін гулялі на іх палове поля. Пасля падачы вуглавога пасля адскоку не трапляе ў вароты **Аляксандр Альховік**, пасля выхаду сам-насам не забівае **Максім Чабрыцкі**. А неўзабаве ў вароты маладзечанцаў літаральна на працягу дзвюх хвілін забіваюць два галы. Да канца гульні застаецца хвілін дваццаць. Здавалася б, ужо ўсё, матч прайграны.

Аднак маладзечанцы не здаліся. На поле выпускаюць ветэранаў клуба **Мікалая Татуна** і **Дзмітрыя Вышынскага**. І праз пару хвілін пасля падачы вуглавога **Прохар Новікаў** скарачае разрыў у ліку.

Маладзечанцы не спыняюць атакі. Не забівае ў пустыя вароты **Сяргей Галюк**, пасля фолу на **Сяргею Дараховічу** суддзя ставіць доўгачаканы пенальці. Але яго не рэалізоўвае **Дзмітры Вышынскі**. І толькі ў дадатковы час пасля прастрэлу Юрыя Бугая далёкую штангу замкнуў **Сяргей Галюк**.

– Гульня была вартая фіналу, – ацэньвае матч Рыгор Кароль. – Дзякуй усім нашым гульцам за самааддачу, за жаданне змагацца да апошняй хвіліны за перамогу.

**Пасля гульні ў некаторых маладых гульцоў на твары былі слёзы. Гэта мяне ўразіла да глыбіні душы. Стала зразумела, што нашай моладзі неабыякавы маладзечанскі футбол.**

Дзякуй трэнерам з нашай ДЮСШ-4, што выхоўваюць такую моладзь. І дзякуй заўзятарам, якія прыйшлі падтрымаць каманду.

Але і ФК "Любань" не стаў чэмпіёнам. Нічыя дапамагла вырваць першае месца "Жодзіна-2007". Дома жодзінцы абыгралі з лікам 3:0 "Зорку-РФАЦ-Вікторыю". Набрала каманда 28 ачкоў, як і "Любань". Але па дадатковых паказчыках заняла першае месца.

У "Маладзечна-ДЮСШ-4" у выніковай табліцы – 26 ачкоў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● ПЕРШАЯ ЛІГА

## "Смаргонь" перамагла ў "абласным дэрбі"

**СМАРГОНЬ.** У першы дзень лістапада футбольны клуб "Смаргонь" прымаў на сваім полі ФК "Ліда". Сустрэчы гэтых камандаў носяць неафіцыйны статус "абласнога дэрбі" і праходзяць у вельмі ўпартай барацьбе.

На гэты раз перад камандамі стаялі розныя задачы. Смаргонцы імкнуцца выканаць пастаўленую задачу на сезон і заняць чацвертае месца, а лідчане спрабуюць трапіць па выніках чэмпіянату хаця б у верхнюю палову табліцы.

Гаспадары з першых хвілін матча завалодалі ініцыятывай, пачалі нагнятаць абстаноўку каля варот маладога галкіпера лідчан. Раз за разам здзяйснялі рэйды па флангах **Павел Баскакаў** і **Уладзімір Казко**, актыўна далучаліся да атакі **Ігар Нарожнік** і **Сяргей Кавалюк**. Апошні яшчэ некалькі месяцаў таму абараняў колеры ФК "Ліда". Ну і, вядома, "наканечнік" смаргонскіх атак **Мікалай Рындзюк** меў некалькі шанцаў адкрыць лік яшчэ да перапынку, але мяч упарта не ішоў у вароты.

Пасля перапынку гульня практычна не змянілася. Гаспадары метадычна расхіствалі абарону лідчан. На 59-хвіліне пасля падачы вуглавога **Аляксандр Тарлікоўскі** скінуў мяч на **Мікалая Рындзюка**, і той ударам галавой перакінуў мяч праз галкіпера гасцей.

У канцоўцы сустрэчы гаспадары трывала аселі на палове поля саперніка і ў выніку здолелі забіць другі гол. **Сяргей Кавалюк** дакладным пасам вывеў сам-насам з галкіперам **Юрыя Мархеля**. І ён стрымана разабраўся з варатаром. Юры перапыніў сваю безгалявую серыю, якая доўжылася роўна пяць месяцаў.

У выніку перамога смаргонскага клуба – 2:0. Дзякуючы таму, што "Іслач" згуляла свой матч унічыю, "Смаргонь" замацавалася на чацвертым радку ў табліцы.

У бліжэйшую суботу, 8 лістапада, ФК "Смаргонь" на выездзе правядзе чарговую сустрэчу супраць аўтсайдара – пінскай "Хвалі".

**Уладзімір АМБРАСЕВІЧ, Смаргонь.**

## Лідзіруюць выратавальнікі

**ВІЛЕЙКА.** На мінулым тыдні завяршыўся другі тур другога круга чэмпіянату Вілейскага раёна па валейболе. Супрацоўнікі райаддзела па надзвычайных сітуацыях 28 кастрычніка абыгралі 3:0 каманду аддзела адукацыі, спорту і турызму. Праз два дні з такім жа лікам "Энергазбыт" перамог "Першы Беларускі".

Пасля двух тураў наперадзе каманда райаддзела па надзвычайных сітуацыях, распавёў інструктар-метадыст цэнтра фізкультурна-аздараўленчай работы "Сатурн" **Аляксандр Вайда**.

## У спартыўным арыентаванні перамаглі крывічане

**МЯДЗЕЛ.** У райцэнтры 29 кастрычніка прайшлі раённыя спаборніцтвы вучняў па спартыўным арыентаванні ў зададзеным накірунку. Прынялі ўдзел 14 камандаў, паведаміла метадыст Цэнтра турызму Мядзельскага раёна **Людміла Верабей**.

У агульнакамандным заліку першае месца ў каманды Крывіцкага дзіцячага сада-сярэдняй школы.

У асабовым заліку пераможцамі ў малодшай узроставай групе сталі **Дар'я Уладыка** са Свірскай СШ і **Нехвядовіч Максім** з Мядзельскага дзіцячага сада-сярэдняй школы.

У сярэдняй узроставай групе лепшымі былі **Марына Малько** (гімназія-інтэрнат Мядзела) і **Мікіта Куцкевіч** (Нарачская СШ №1)

Вучні з Крывічоў перамаглі ў старэйшай узроставай групе. Гэта **Карына Руднковіч** і **Яўген Дубаневіч**.

## Матч завяршыўся бойкай

**МАЛАДЗЕЧНА.** На сваёй пляцоўцы "Дынама-Маладзечна" 31 кастрычніка прымала "Юнацтва-Мінск". І прайграла з лікам 1:3.

Адзіны гол у "Дынама-Маладзечна" за некалькі хвілін да канца першага перыяду забіў **Артур Абмётка**. Ён зраўняў лік, а далей забівалі толькі хакеісты "Юнацтва-Мінск".

Па завяршэнні матча была бойка. Ужо пасля фінальнай сірэны **Пратасеня** жорстка сыграў супраць гульца "Дынама-Маладзечна" **Знахарэнкі**. Наш абаронца паехаў разбірацца – і тут панеслася, паведамляе hcdinamo.by. Не было і традыцыйнага поціску рукі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




Фота hcdinamo.by

Бойка па завяршэнні матча.

● КОНКУРСЫ

# Падлеткі прабіваліся на “Звонкую раніцу” з “Купалінкай” і рэпам

**МЯДЗЕЛ. Сябры журы кагО ашаламлялі пытаннем: “А “Валенки” можаце?”, у іншага патрабавалі: “Папсу давайце!”. Раілі не піць мінералкі перад выступленнем і прапаноўвалі праспяваць песню, што гучыць у плэеры.**

29 кастрычніка ў Мядзеле праходзіў кастынг конкурсу юных вакалістаў “Звонкая раніца-5”. Да ўдзелу ў ім запрашалі вучняў 7-11 класаў.

У зале гарадскога Дома культуры сабралася больш за сорак падлеткаў. Былі яны не толькі з Мядзельшчыны. Прыехалі з Вілейскага і Маладзечанскага, Пастаўскага і Докшыцкага раёнаў.

Кастынг расцягнуўся на чатыры з паловай гадзіны. Для дэманстрацыі вакальных здольнасцяў юныя спевакі выбіралі разнастайныя кампазіцыі: ад “Купалінкі” да расійскага рэпа. А каго сябры журы і станцаваць прасілі.

**Ян Рубанюк** з вёскі Лук’янавічы на Мядзельшчыне прыйшоў на кастынг у народным строі. І песню падрыхтаваў адпаведную – “Вёсачка мая” з рэпертуару ансамбля “Бяседа”.

### Фінал “Зорнай раніцы” пройдзе ў “Зубраняці”

Кастынгі пятага сезона конкурсу “Звонкая раніца” адбыліся ў 12 гарадах Беларусі. У іх прынялі ўдзел каля 360 удзельнікаў. У нашым рэгіёне кастынг прайшоў толькі ў Мядзеле.

**Кожны кастынг арганізатары здымалі на відэа. У бліжэйшы час прагледзяць зняты матэрыял і выберуць усіх фіналістаў. Вынікі абяцаюць агучыць пасля 15 лістапада. У фінал трапяць не больш як 50 удзельнікаў.**

Гэтыя падлеткі паедуць у Нацыянальны дзіцячы адукацыйна-аздараўленчы цэнтр “Зубраня” на Мядзельшчыне. Там у пачатку наступнага года пройдзе фінал конкурсу.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

У Яна Рубанюка на конкурсе і песня, і строй былі народныя.



## Коласаўцы – нашы госці!



**МАЛАДЗЕЧНА. Пачынаюцца гастролі Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску. Гастрольныя спектаклі пакажуць на сцэне Мінскага абласнога драмтэатра.**

11 лістапада госці пакажуць трагікамедыю “**ПАХАВАЙЦЕ МЯНЕ ЗА ПЛІНТУСАМ**”, створаную па аднайменнай аповесці **Паўла Санаева**. У спектаклі, як і ў рэальным жыцці, смешнае перамяжоўваецца з трагічным.

12 лістапада віцябляне прапануюць мюзікл-памфлет “**ДЫЛІЖАНС**”, створаны па матывах вядомай навэлы “Пышка” знакамітага французскага пісьменніка **Гі дэ Мапасана**.

13 лістапада гледачы ўбачаць іранічную драму “**ПАЗЫЧАНАЕ ШЧАСЦЕ**” па п’есе **Фёдара Палачаніна**. Гэта гісторыя чарговай правінцыялкі, якая збіраецца “заваяваць” сталіцу.

**Пачатак спектакляў у 19:00.**

11, 12, 13 лістапада ў 11:00 і 13:00 ДЗЕЦІ ЎБАЧАЦЬ спектакль-казку-гульню па п’есе **Васіля Ткачова** “**ЯК ВОЎК МАТУЛЯЙ БЫЎ**”.

● РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр “Радзіма”, Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Камедыя, анімацыя “**Горад герояў**”, 3D (ЗША, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
7 лістапада – у 14:00
8 лістапада – у 15:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Сямейная камедыя “**Аляксандр і жахлівы, кашмарны, нехарошы, вельмі кепскі дзень**” (ЗША, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
7 і 9 лістапада – у 16:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Анімацыя, камедыя, прыгоды “**Мядзведзі-суседзі**”, 3D (Кітай, 2014, без узроставых абмежаванняў)
7 лістапада – у 12:00
8 лістапада – у 13:00
9 лістапада – у 14:00
11 лістапада – у 17:00
Цана білета: 15 000 рублёў

“**Горка 2**” (Расія, 2014, пасля 16 год)
7 і 10 лістапада – у 21:30
8 лістапада – у 17:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Баявік, прыгоды “**Вікінгі**” (Швейцарыя, Германія, ПАР, 2014, пасля 16 год)
8 лістапада – у 19:30
9 лістапада – у 21:30
11 лістапада – у 19:00
13 лістапада – у 20:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Драма “**Сонечны ўдар**” (Расія, 2014, пасля 16 год)
7, 10, 12 лістапада – у 18:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм’ера! Прыгоды, фантастыка “**Інтэрстэлар**” (ЗША, Вялікабрытанія, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
8, 12 лістапада – у 21:30
9 лістапада – у 18:00
11 лістапада – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм’ера! Сямейная анімацыя “**Махні крылом**” (Францыя, 2014, без узроставых абмежаванняў)
13 лістапада – у 16:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Прэм’ера! Драма “**Я не вярнуся**” (Беларусь, Казахстан, Расія, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
13 лістапада – у 18:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм’ера! Камедыя “**Дзень дурня**” (Расія, 2014, пасля 16 год)
13 лістапада – у 22:00
Цана білета: 50 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Прыгоды “**Неверагоднае перамяшчэнне**” (Беларусьфільм, 2014)
7, 8 лістапада – у 15:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя “**Тарзан**” (ЗША, 2013, без узроставых абмежаванняў)
7, 8 лістапада – У 13:30
9 лістапада – у 15:00
Цана білета: 20 000 рублёў

“**Белыя росы. Вяртанне**” (Беларусь, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
7, 8 лістапада – у 19:00
9 лістапада – у 17:00
11 лістапада – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Драма “**Зло**” (Беларусь, 2014, з 16 год)
7, 8 лістапада – у 17:30
12 лістапада – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм’ера! Трылер “**Дом у канцы вуліцы**” (ЗША, Канада, 2013, з 16 год)
7, 9, 13 лістапада – у 21:00
11 лістапада – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм’ера! Баявік “**Пластык**” (Вялікабрытанія, 2013, з 16 год)
8, 10, 12 лістапада – у 21:00
9, 13 лістапада – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў
Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**Свінтус грандыёзус, альбо Хто смяецца апошнім**” (камедыя ў 2-х дзеях), *Кандрат Крапіва*
6, чацвер, – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7*

Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32** (галоўны адміністратар),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/

## Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка” пакажа

“**Церамок**” (добрая казка), *С.Маршак* (рус. мова)
9 лістапада – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. (8-0176) **75-36-73, 76-84-27.**

## Кінатэатр “Мір”, Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя “**Золата**” ( Расія, з 16 год)
7, 8, 9, 12, 13 лістапада – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Фантастыка/драма “**Воблачны атлас**” (ЗША, з 16 год )
7, 8 лістапада – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя “**Кароль сафары**” ( ПАР, без узроставых абмежаванняў)
8, 9 лістапада – у 15:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Трылер “**Паветраны маршал**” ( Вялікабрытанія дзецям да 14 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
9, 12, 13 лістапада – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прыгоды “**Неверагоднае перасоўванне**” (Беларусь, без узроставых абмежаванняў)
7, 12, 13 лістапада – у 18:30
Цана білета – 20 000 рублёў

Анімацыя “**Кароль сафары**” ( ПАР, без узроставых абмежаванняў)
8, 9 лістапада – у 15:30
Цана білета – 15 000 рублёў

Камедыя “**Золата**” ( Расія, з 16 год)
8, 9 лістапада – у 18:30
Цана білета – 35 000 рублёў
Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

● ГАРАСКОП
7-13 ЛІСТАПАДА


**Авен.** Што пасееш, тое і пажнеш – менавіта так будуць развівацца падзеі. Калі вас не задавальняе стан спраў, прыміце меры. Не ўсё ў жыцці круціцца ля грошай.


**Цялец.** Дзверы новых магчымасцяў зноў шырока адчыненыя перад вамі. Трэба толькі дачакацца адпаведнага моманту, які, дарэчы, можа здавацца на першы погляд зусім выпадковым.


**Блізняты.** У вас павышаецца дзелавая актыўнасць. Галоўнае, не канцэнтруйце сваю ўвагу на цяжкасцях, а праявіце спрыт і схіліце сітуацыю, якая склалася, на свой бок.


**Рак.** Нарэшце вас чакае спакойны перыяд, які не абяцае рэзкіх перамен. Не варта разлічваць толькі на ўласныя сілы, у вас жа ёсць калегі, сябры, сваякі. Яны з радасцю пададуць вам руку дапамогі.


**Леў.** Адносіны з блізкімі людзьмі застынуць на мёртвай кропцы. Гэта і добра. Аднак калі раптам і ўзнікнуць рознагалоссі, то вам лепш не ўнікаць у сутнасць праблемы. Спакойна слухайце і запамінайце кінутыя ў сэрцах словы, але з адлегласці. Пасля атрыманай інфармацыяй можна будзе выгадна скарыстацца.


**Дзева.** Не спадзявайцеся на ўдачу, толькі дасканалая падрыхтоўка можа схіліць чашу вагаў на вашу карысць.


**Шалі.** Вам самі нябёсы спрыяюць. Бярыцеся за сур’ёзныя справы, гэты перыяд знакавы для вас. Самі па сабе справы не робяцца, але і без выпадковага збегу акалічнасцяў яны рэдка бываюць паспяховымі.


**Скарпіён.** Не будзьце ганарлівыя, нейкай царственнай асобай.


**Стралец.** Вам трэба зазірнуць трохі наперад і перагледзець сваю дзейнасць, каб цвёрда стаць на ногі. Нейкі чалавек, можа, стары сябар, гатовы аказаць вам дапамогу.


**Казярог.** Вы павінны добра ведаць, што можна і чаго нельга абмяркоўваць з нейкім канкрэтным чалавекам.


**Вадалей.** Вам цяпер вельмі трэба парада блізкага чалавека, бо вы знаходзіцеся не ў тым стане душы, каб прымаць жыццёва важныя рашэнні.


**Рыбы.** Няма нічога больш натхняльнага, чым свежы погляд на сваё жыццё ў цэлым і на праробленую працу. Ёсць у вас сродкі і магчымасці быць незалежнымі ў фінансавых пытаннях.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**




Камент-эксперт
Rh.by
Выказы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень



## НАДВОР'Е

**8 лістапада субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +9 / +13 | | +11 / +15 | | +8 / +12 | | +7 / +10 | |
| | 739 | ↑ 3 | 741 | → 2 | 744 | ← 2 | 746 | ↑ 2 |
| Вільня | +9 / +13 | | +8 / +14 | | +10 / +13 | | +8 / +11 | |
| | 746 | ↗ 3 | 748 | ↗ 3 | 752 | ↖ 3 | 754 | ↑ 3 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 8.28
Захад 17.24
Даўжыня дня 8.56

Усход 18.44
Захад 9.51
Квадра 3




## ПРЫКМЕТЫ

- 8 лістапада. "Змітраў дзень – зіма лезе на пляцень". "Святы Зміцер – ён на ўсё хіцер: солады салодзіць, піва робіць, сыноў жэніць, дачок выдае". Калі цёпла ў гэты дзень, то зіма і вясна будуць цёплыя.
- Лістападаўскія ночы да снегу цёмныя

**Прагноз надвор'я прадстаўляе ІДЭЯ БАНК**





## Чытайце праз тыдзень:

- **Якая тэмпература лічыцца аптымальнай, каб папарыцца ў лазні? Каму нельга парыцца і доўгі час знаходзіцца ў лазні? Ці можна вылечыцца ад хваробаў, калі рэгулярна парыцца і мыцца ў лазні?**



**Рэгіянальная газета.** Rh.by Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 45 (1019) 7.11.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02385 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 944. Падпісана ў друк у 16.00 6.11.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.